7 кастрычніка 2016 | № 38 (503)

Новы час

novychas.by

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Смяротнае пакаранне: адмяніць неадкладна! стар. 5



# Смерцю за смерць

## Кожны з грамадзян Беларусі — саўдзельнік забойства



Аксана КОЛЬ

У Беларусі пачаўся тыдзень супраць смяротнага пакарання. У чарговы раз праваабаронцы і проста неабыякавыя людзі паспрабуюць данесці грамадству: пакаранне смерцю — таксама забойства.

Хутчэй за ўсё, гэты тыдзень кардынальна не зменіць сітуацыю з выкананнем смяротных прысудаў у Беларусі, але, магчыма, хаця б прымусіць задумацца пра тое, ці маем мы права забіраць жыццё, нават калі гэта жыццё забойцы.

На сённяшні дзень наша краіна ў ліку 22 дзяржаў, дзе здзяйсняюцца смяротныя прысуды. Усе астатнія больш за 170 краін альбо ўвогуле адмовіліся ад смяротнага пакарання, альбо ўвялі мараторый, альбо проста даўно не выконвалі прысуды. Улады толькі 22 краін лічаць, што страх смерці можа зберагчы чыёсьці жыццё.

За сваю гісторыю чалавецтва было вельмі вынаходлівым у пакаранні смерцю. Вядома як мінімум два дзясяткі спосабаў такога пакарання. Пералічу толькі некалькі: расстрэл, павешанне, адсячэнне галавы, кіпячэнне ў алеі, у віне ці вадзе, чвартаванне, раздзіранне і рассяканне на дробныя часткі, спаленне, закапванне жывым у зямлю, здзіранне скуры, галодная смерць, выцягванне кішак... Здавалася б, пасля такога ва ўсім свеце ўжо сотні гадоў не павінна быць цяжкіх злачынстваў.

Аднак яны ёсць. Больш за тое, статыстыка сведчыць пра адсутнасць залежнасці паміж колькасцю цяжкіх злачынстваў і пагрозай пакарання смерцю. Можна прыводзіць колькі заўгодна лічбаў ды іншых аргументаў супраць смяротнага пакарання, аднак той, хто заўзята выступае за захаванне прынцыпу «вока за вока, смерць за смерць», наўрад ці іх пачуе.

А прынцып гэты не мае нічога агульнага ні са справядлівасцю, ні з законам, і тым больш з мараллю. Гэта дзікунская прага помсты любым чынам, гэта вар'яцкае жаданне назіраць за пакутамі твайго ворага, гэта садысцкае памкненне прынесці боль і смерць.

На сёння акрамя Беларусі і ЗША пакаранне смерцю захавалася толькі ў краінах Афрыкі і Азіі. У шмат якіх мусульманскіх краінах, дарэчы, дасюль забіваюць камянямі. У прыватнасці, артыкул 119 Ісламскага крымінальнага кодэкса Ірана рэгламентуе: «Пры пакаранні ў выглядзе закідвання камянямі да смерці камяні не павінны быць занадта вялікімі, каб асуджаны не паміраў ад 1 або 2 удараў. Яны таксама не павінны быць і настолькі малыя, каб іх нельга было назваць камянямі». Як правіла, за гэтым відовішчам назіраюць натоўпы. У Кітаі штогод караюць смерцю каля 1000 чалавек. Некаторыя пакаранні публічныя: людзей расстрэльваюць у асноўным на стадыёнах перад пачаткам футбольных матчаў. Вось такая справядлівасць па законе...




«А што рабіць з забойцамі, якія загубілі не адно жыццё? Каб з табой такое здарылася, не была б супраць смяротнай кары», — не аднойчы чула я аргументы прыхільнікаў прынцыпу «смерць за смерць». Варыянтаў пакарання забойцаў на самай справе шмат, прычым кажуць, што асуджаныя на пажыццёвае зняволенне праз пэўны час нават хацелі б смерці, бо жыць з цяжарам здзейсненага становішча невыносна. Але я не збіраюся зараз прыводзіць нейкія аргументы і кагосьці пераконваць. Не буду расказваць пра тых, хто выконвае прысуды і іх псіхалагічны стан. Я раскажу гісторыю майго дзеда.

> **Акрамя Беларусі і ЗША пакаранне смерцю захавалася толькі ў краінах Афрыкі і Азіі**

Пасля прыходу Саветаў у Заходнюю Беларусь у яго адабралі амаль усё заробленае цяжкай працай. А праз пэўны час вырашылі і жыцця пазбавіць. Але дзеда папярэдзілі, і ён сышоў у лес. Нкусаўцы прыйшлі ў хату ранкам, выцягнулі з ложкаў жонку і траіх дачок (старэйшай было 14 гадоў) і некалькі гадзін спрабавалі даведацца, дзе ж муж і бацька. Ніхто нічога не сказаў. Яны сышлі, але абяцалі вярнуцца. І вярталіся яшчэ шмат разоў. Сярод іх быў маладзенькі хлопец, мясцовы, які толькі-толькі прыйшоў на службу. Ён цукеркамі ды сяброўскімі размовамі спрабаваў даведацца ў дзяцей, куды ж падзецца іх бацька.

Праз пэўны час сяброўскія візіты скончыліся. Колькі месяцаў дзед яшчэ жыў у лесе, але нарэшце вырашыў, што больш не будзе хавацца. І сам прыйшоў да тых, хто яго шукаў: «Ну вось я, чаго хацелі?» «Ужо нічога», — пачуў ён у адказ. План па ворагах народа быў выкананы, і дзед ім пакуль быў не патрэбны. А хутка пачалася вайна.

Той хлопец, які прыходзіў за дзедам, не паспеў збегчы і амаль адразу трапіў у рукі немцаў. Яго ўжо вялі на расстрэл, калі ён убачыў на вуліцы майго дзеда і стаў прасіць, каб той пацвердзіў, што ён звычайны мясцовы хлопец, не камуніст, нічога дрэннага не рабіў. Дзед за яго паручыўся.

«Як так, — пыталася я, — ён жа хацеў цябе забіць, а ты яго выратаваў?» «Каб я яму не дапамог, то таксама стаў бы яго забойцам. Але не нам вырашаць, каму жыць, а каму не», — адказаў мне дзед.

Кожнае смяротнае пакаранне ў нашай краіне выконваецца ад імя Рэспублікі Беларусь, то бок ад імя кожнага з нас. Я не хачу быць забойцай. Таму кажу: «Не — смяротнаму пакаранню!»




Працяг тэмы на 5 і 9 стар. »

# Каму атрымаць, а каму пачакаць

**Новыя правілы ўнутранага распарадку месцаў адбыцця адміністрацыйнага арышту, што былі зацверджаныя яшчэ ў кастрычніку 2015 года і закліканыя палепшыць становішча арыштаваных асоб, выклікаюць шмат пытанняў. Пра гэта паведамляюць «Праваабаронцы супраць катаванняў».**

Напрыклад, без дазволу начальніка месца адбыцця арышту не прымаюцца перадачы ад асоб, якія не з'яўляюцца для адміністрацыйна арыштаванага блізкімі сваякамі.

«Адміністрацыйна арыштаваныя, якія не маюць блізкіх сваякоў, знаходзяцца ў няроўным становішчы ў параўнанні з асобамі, у якіх блізкія сваякі ёсць, і для іх існуе прававая нявызначанасць у дачыненні да магчымасці атрымання перадач падчас адбыцця адміністрацыйнага арышту. Тым самым, дадзены пункт не адпавядае арт. 22 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь аб роўнасці ўсіх перад законам і праве без дыскрымінацыі на роўную абарону правоў і законных інтарэсаў», — сцвярджае праваабаронца Сяргей Усціна ў.

Праваабаронца звярнуўся ў Канстытуцыйны суд і просіць распачаць вытворчасць па справе аб выключэнні з Правілаў унутранага распарадку месцаў адбыцця адміністрацыйнага арышту дадзенага дыскрымінацыйнага становішча.

«Праблема нават шырэй — не толькі адміністрацыйна арыштаваныя, але і асобы, якія перадаюць перадачу, трапляюць у залежнасць ад начальніка месца адбыцця адміністрацыйнага арышту. Магчымасць даваць дазвол на перадачы адміністрацыйна арыштаванаму без выразна замацаваных крытэрыяў можа прывесці да свавольства начальніка. Акрамя таго, блізкае сваяцтва ў многіх выпадках немагчыма вызначыць нават па дакуменце пасведчання асобы. Разыходжанне прозвішчаў не з'яўляецца фактам адсутнасці блізкага сваяцтва», — заяўляе Сяргей Усцінаў.

На думку праваабаронцы, менавіта пасля выключэння нормы аб дазволе начальніка месца адбыцця адміністрацыйнага арышту на ўручэнне адміністрацыйна арыштаванаму перадачы, якая перадаецца асобай, што не з'яўляецца для адміністрацыйна арыштаванага блізкім сваяком, п. 47 Правілаў №313 будзе адпавядаць арт. 22 Канстытуцыі і выключыць вышэйпералічаныя пытанні.

**spring96.org**

# Правацэнтрысты ствараюць Асамблею

Арцём ЛЯВА

**Ідэю стварэння Асамблеі народных прадстаўнікоў лідары правацэнтрысцкай кааліцыі — першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч, старшыня АГП Анатоль Лябедзька і сустаршыня аргкамітэта БХД Віталь Рымашэўскі — агучылі на прэс-канферэнцыі 5 кастрычніка.**

«Мы падсумавалі наш удзел у выбарчай кампаніі і прыйшлі да высновы, што па колькасці і якасці гэта была добрая праца. Новы эканамічны курс, змена ўлады праз сумленныя выбары, выбар еўрапейскага кірунку развіцця — тое, што вылучала нашых кандыдатаў сярод іншых. Стварэнне Асамблеі — гэта працяг нашай кааліцыйнай працы», — адзначыў Анатоль Лябедзька.

Было абвешчана, што ўстаноўчы сход Асамблеі народных прадстаўнікоў распачнецца 6 кастрычніка а 12-й гадзіне ў гатэлі «Манастырскі». Подпісы пад устаноўчымі дакументам, як мяркуецца, паставяць каля 70 кандыдатаў ад правацэнтрысцкай кааліцыі на апошніх выбарах у Палату прадстаўнікоў, а таксама дэпутатка ПП Ганна Канапацкая.

Народныя прадстаўнікі збіраюцца надалей працаваць у акругах, праводзіць грамадскія кампаніі і працягваць распрацоўку праектаў рэформаў для новай Беларусі ў эканоміцы і сацыяльнай сферы.

«Наша задача — арганізаваць грамадскія кампаніі ў падтрымку рэформаў, прасоўваць законы на карысць людзей. Адной з галоўных задач на сёння з'яўляецца рэформа выбарчага заканадаўства, каб з пачатку 2018 года правесці выбары згодна са стандартамі АБСЕ», — паведаміў Віталь Рымашэўскі. Напрацоўкі Асамблеі мяркуецца таксама дасылаць у профільныя ўстановы беларускага ўрада ды ініцыяваць разгляд законапраектаў у Палаце прадстаўнікоў.

«Мы павінны дзейнічаць хутка і эфектыўна, аб'ядноўваць аднадумцаў у рэфармаванні эканомікі і палітычнай сістэмы. Мы адкрытыя для камунікацый з іншымі палітычнымі структурамі па пытаннях, на якія маем агульнае бачанне», — падкрэсліў Юрась Губарэвіч.

Правацэнтрысты ў межах Асамблеі народных прадстаўнікоў спадзяюцца на плённую супрацу з усімі дэмакратычнымі сіламі і экспертнымі супольнасцямі, а таксама маюць намер фармаваць павестку дня.

# Бацька Бандарэнкі звяртаецца ў Камітэт па правах чалавека ААН

Генадзь КЕСНЕР

**Бацька зняволенага праваабаронцы Андрэя Бандарэнкі 4 кастрычніка на прэс-канферэнцыі ў Мінску падпісаў скаргу ў Камітэт па правах чалавека (КПЧ) ААН з нагоды ціску на яго сына, які зараз знаходзіцца ў адзіночнай камеры Магілёўскае турмы.**

Складаць скаргу ў КПЧ ААН дапамагалі пяць вядомых у краіне юрыстаў — Міхаіл Пастухоў, Алег Волчак, Ігар Рынкевіч, Аляксандр Дабравольскі і Юры Валчок.

Па словах доктара юрыдычных навук прафесара Міхаіла Пастухова, скарга звязана з парушэннем у дачыненні да Андрэя Бандарэнкі агульнапрызнаных правоў падчас папярэдняга следства і судовага разбіральніцтва, а таксама пасля таго, як судовае рашэнне набыло сілу.

«Юрысты склалі гэты зварот, грунтуючыся на касацыйнай скарзе, якую ў свой час падалі Андрэй і яго адвакат, а таксама на выраку суда і тых адказаў, якія паступілі ад судовых інстанцыяў, — адзначыў Міхаіл Пастухоў. — Нашы высновы грунтуюцца на матэрыялах справы. Мы абапіраліся на два найважныя палажэнні Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, а менавіта на артыкул 2, які прадастаўляе ўсім грамадзянам права на прававую абарону, і артыкул 14, які замацоўвае асноўныя гарантыі аб'ектыўнага расследавання і справядлівага судовага разбіральніцтва. З матэрыялаў справы і тых матэрыялаў, якія мы маем, вынікае, што ніводная з гарантыяў, якія ўтрымліваюцца ў артыкуле 14 Пакта, па справе Андрэя Бандарэнкі не была выкананая. І на гэтым мы робім асноўны акцэнт».

Пастухоў звярнуў увагу, што не была забяспечана прэзумпцыя невінаватасці, права асобы не лічыцца вінаватай, пакуль віна не даказаная, а таксама права на абарону. Так, Андрэй Бандарэнка ўбачыў адваката толькі праз тры дні пасля свайго затрымання. Было парушана права абвінавачанага на сваіх сведкаў, практычна ўсе хадайніцтвы, якія заяўляліся Бандарэнкам і ягонымі абаронцам як у перыяд следства, так і падчас судовага разбіральніцтва, былі адхіленыя.

Таксама, канстатуе Міхаіл Пастухоў, у справе маюцца супярэчлівыя паказанні сведкаў, пацярпелых, а дадатковыя экспертызы мелі за мэту не высветліць абставіны, а толькі звесці канцы з канцамі ў гэтай складанай і заблытанай справе.

«Вывучэнне гэтай справы пераканала нас у тым, што ніводнае з абвінавачанняў, прад'яўленых Бандарэнку, не даказана, не абгрунтавана, і матэрыялы сфальсіфікаваныя. Гэта дае нам права разлічваць на тое, што скарга ў КПЧ ААН ад імя Андрэя Бандарэнкі будзе прынята да разгляду і будзе разгледжана са станоўчым вынікам. Права быць давераной асобай у справе Андрэя Бандарэнкі мае ягоны бацька, паколькі Андрэй зараз знаходзіцца на турэмным рэжыме. Так што Валеры Бандарэнка мае права прадстаўляць інтарэсы свайго сына як унутры краіны, так і за яе межамі», — падкрэсліў Пастухоў.

Праваабаронца Ганна Шапуцька ў свой час на добраахвотнай аснове арганізавала групу падтрымкі Андрэя Бандарэнкі. «Чым больш праходзіць часу, тым больш я пераконваюся ў тым, што справа Андрэя Бандарэнкі мае замоўны характар. І што ён сядзіць не проста за тое, што здзейсніў нейкае правапарушэнне, а чалавека кінулі за краты таму, што ён вельмі перашкаджаў уладам, рэжыму, выкрываў гэты рэжым. Зараз, пасля суда над Андрэем, усё сціхла, ніякіх парушэнняў у пенітэнцыярнай сістэме больш не фіксуецца, так што ўлада дабілася таго, чаго хацела», — упэўнена Ганна Шапуцька.

Валеры Бандарэнка на вачах у журналістаў падпісаў скаргу ў КПЧ ААН. У гэты ж дзень яна была перададзена ў прадстаўніцтва ААН у Беларусі. Аўтары дакумента звярнуліся да КПЧ з просьбаю разгледзець скаргу ў тэрміновым парадку, паколькі жорсткі ціск на Андрэя Бандарэнку ў Магілёўскай турме працягваецца.

Нагадаем, што Андрэй Бандарэнка быў кіраўніком праваабарончай арганізацыі «Платформ Інавэйшн», якая займалася правамі вязняў у месцах пазбаўлення волі.

# На месцы расстрэлаў — сметнік

Таццяна ШАПУЦЬКА

**«Сёння апынулася на Кальварыйскіх могілках. Наведалі родных, прыбралі магілы. Калі ішлі да магілы майго прадзеда, Станіслава Пішчала, які там пахаваны ў 1918 годзе, убачыла вось гэткую вусцішную карціну, менавіта на месцы масавых расстрэлаў рэпрэсаваных зрабілі звалку смецця...» — напісала на сваёй старонцы ў ФБ Алена Ждановіч.**

«Кожны год на гэтае месца прыходзяць людзі, і не адзін раз, каб ушанаваць памяць па нявінна забітых. Хутка Дзяды, і мясцовыя ўлады ўжо падрыхтаваліся да свята... вось такі «помнік» навалялі... Людцы, нешта ж трэ рабіць. Ці ёсць у нас якая арганізацыя, якая можа неяк адрэагаваць...» — напісала жанчына.

Алена Ждановіч размясціла фотаздымкі, на якіх бачна, што на месцы, дзе грамадскія актывісты традыцыйна праводзяць акцыі ўшанавання памяці ахвяраў камуністычных рэпрэсій, ляжаць кучы будаўнічага смецця і вісіць плакат «Месца збору і часовага захавання будаўнічага смецця».

Мы звязаліся з адміністрацыяй Кальварыйскіх могілак, каб высветліць сітуацыю. Па словах адміністрацыі могілак, гэта фактычна адзінае месца на тэрыторыі могілак, куды можа пад'ехаць трактар. Маўляў, з вузкіх праходаў супрацоўнікі могілак на тачках вывозяць смецце да агульнай кучы, куды пасля пад'язджае адмысловая тэхніка. Супрацоўніца адміністрацыі Кальварыйскіх могілак запэўніла, што да Дзядоў усё будзе прыбрана, і людзі, як і звычайна, змогуць ускласці кветкі і запаліць зніч ы.



## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Нас не задушаць

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Паміж Пекінам і Ісламабадам Лукашэнка ўсё ж пакіраваў краінай. Праўда, як гэта нам адгукнецца, — незразумела.**



Галоўнай эканамічнай тэмай тыдня стала павышэнне Беларуссю ў аднабаковым парадку коштаў на транзіт праз краіну расійскай нафты. У пастанове гаворыцца пра тарыфы на паслугі па транспарціроўцы нафты па магістральных трубаправодах прадпрыемстваў «Гомельтранснафта Дружба» і «Полацктранснафта Дружба». Гаворка ідзе пра паслугі па прыёме і транспарціроўцы нафты для далейшага замяшчэння па напрамках Германія, Чэхія, Славакія, Польшча, Венгрыя, Украіна. Кошты на транзіт павысіліся ў сярэднім на 50%.

На фоне скарачэння аб'емаў пастаўкі расійскай нафты ў Беларусь з-за непрызнання доўгу перад «Газпрамам» і бясконцых расійска-беларускіх газавых перамоваў, навіна выглядае як ультыматум Расіі. Бо, як падкрэслівае расійскі бок, гэты крок Беларусі быў «аднабаковым» і парушыў як палажэнні міжурадавай дамовы, так і ўзгодненую методыку змены тарыфаў.

У Федэральнай антыманапольнай службе Расіі назвалі павышэнне тарыфаў на транзіт расійскай нафты «неймаверным». І нават прыгразілі нам судом. «Рашэнне сітуацыі магчыма ў судовай плоскасці», — заявіў начальнік упраўлення кантролю ТЭК ФАС Расіі Дзмітрый Махонін.

Калі справа сапраўды дойдзе да суда, то гэта будзе вельмі цікавы працэс. Расія, як звычайна, узгадвае пра міжнародныя дакументы і пагадненні толькі тады, калі гэта ёй выгадна. Беларусь у выніку можа прад'явіць сустрэчны іск. Бо з-за той жа газавай спрэчкі РФ скараціла нам пастаўкі нафты на 5 мільёнаў тон. Аднак што цікава: па міжурадавых пагадненнях скарачэнне паставак нафты магчымае толькі ў тым выпадку, калі Беларусь недапастаўляе ў Расію бензін, зроблены з гэтай нафты. Пра газ і кошты на яго ў гэтым пагадненні — няма ні слова.

Так што першай міжурадавыя пагадненні парушыла Расія. Мы ж, як сапраўдныя партызаны, спачатку прамаўчалі, але далі свой нечаканы асіметрычны адказ.

Апраўдваючы скарачэнне паставак нафты, расійскі віцэ-прэм'ер Аркадзь Дварковіч казаў: «Нашы беларускія партнёры нам недаплачваюць за газ, мы з-за гэтага губляем грошы, у тым ліку ў бюджэце, бо «Газпрам» — буйны падаткаплацельшчык, і, вядома, вымушаны шукаць варыянты кампенсацыі». А калі Беларусь пачала шукаць тыя ж самыя «варыянты кампенсацыі», бо нафта — гэта нашае ўсё, расійцы раптам узгадалі: ёсць жа міжурадавыя дамоўленасці! І пачалі енчыць: Беларусь іх парушыла! А самі?

**Ва ўсёй гэтай сітуацыі надзвычай цікавы вынік візіту Лукашэнкі ў Пекін. Не, «шаўковы шлях», «Вялікі камень», 27 пагадненняў у розных сферах і іншае бла-бла-бла па дзяржаўным тэлебачанні — гэта ўсё зразумела. Але што Лукашэнка прывёз з Кітая, каб так дзёрзка паводзіць сябе і з Расіяй, і з МВФ?**

У той жа час Лукашэнка ў чарговы раз папярэдзіў урад пра «ненахіляльнасць» перад Міжнародным валютным фондам, з якога мы ўжо амаль год імкнёмся атрымаць тры мільярды долараў крэдыту. «У мяне склалася дакладнае ўражанне, чаго хочуць акцыянеры, заснавальнікі МВФ ад тых дзяржаў, з якімі вядуцца перамовы. То бок, у МВФ ёсць пэўная палітыка, — сказаў Лукашэнка. — Рашэнні прымаюцца ўсё ж такі па рэкамендацыях тых, у каго ў МВФ больш грошай, хто валодае кантрольным пакетам акцый. Дамінуючыя акцыянеры — ЗША і ЕС. Без іх рашэнне МВФ ніколі не прымалася».

Але справа ў тым, што гэтыя патрабаванні, якія быццам бы разумее Лукашэнка, «у канчатковым рахунку нічога не маюць з той палітыкай, якую дэклараваў прэзідэнт на першых прэзідэнцкіх выбарах, магчыма, на другіх, і нават цяпер». «Калі іх (патрабаванні) прачытаеш, усё зводзіцца да аднаго (калі казаць пра сацыяльныя накірункі): ніякага павышэння зарплаты, недакладнае павышэнне тарыфаў і іншага. Камуністы б сказалі — на ўдушэнне народа. Я не хачу сказаць, што нас хто-небудзь хоча задушыць. Нас ніхто не панукае, але, на жаль, формула такая», — заявіў ён.

«Хачу вас папярэдзіць — тых, хто вядзе гэтыя перамовы: калі вы хочаце перакрэсліць усё, што зроблена народам і прэзідэнтам за 20 гадоў, гэта не атрымаецца. Гэтым не займайцеся. Жабракамі беларускі народ мы рабіць не маем права», — падкрэсліў кіраўнік сінявокай.

У дасведчаных беларусаў рыторыка кіраўніка выклікала вялікую занепакоенасць. Калі Лукашэнка кажа пра «ненахіляемасць», значыць, нас хутка нахіляць. Калі кажуць, што мы ганарлівыя, і горш не будзе («жабракамі рабіць народ не маем права») — чакай далейшага пагаршэння сітуацыі. Насельніцтва зазірае ў «жыроўкі» і прагназуе, што і на колькі вырасце гэтай зімою.

Добра, што кіраўнік дзяржавы нарэшце наўпрост сказаў: эканамічныя патрабаванні МВФ не падыходзяць пад беларускую палітычную сістэму. Сістэму мяняць ніхто не збіраецца. Значыць, прыйдзецца адмовіцца ад крэдыту МВФ?

Урад пакуль робіць добрую міну пры дрэннай гульні, кажучы, што прапановы беларускага боку да МВФ будуць дапрацаваныя «з улікам непасрэдна інтарэсаў нашай дзяржавы». «І пры неабходнасці накіруем іх у МВФ. Канкрэтнае напаўненне ліста ў фонд мы ўзгоднім, непасрэдна правеўшы кансультацыі спачатку ў Вашынгтоне з кіраўніцтвам Міжнароднага валютнага фонду, а потым ўнутры нашай краіны», — сказаў старшыня Нацбанка Павел Калаўр.

Але больш ва ўсёй гэтай сітуацыі агулам цікавы вынік візіту Лукашэнкі ў Пекін. Не, «шаўковы шлях», «Вялікі камень», 27 пагадненняў у розных сферах і іншае бла-бла-бла па дзяржтэлебачанні — гэта ўсё зразумела. І ордэн, якім Лукашэнка ўзнагародзіў Сі Цзыньпіня і якога няма сярод дзяржаўных узнагарод Беларусі, таксама — трэба ж было пакінуць кітайскаму сябру нейкі сувенір.

Але што Лукашэнка прывёз з Кітая, каб так дзёрзка паводзіць сябе і з Расіяй, і з МВФ? Гэта павінна быць як мінімум атамная бомба, — калі не ў наўпростым, дык у пераносным сэнсе. Інакш гэтую дзёрзкасць патлумачыць немагчыма.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### Іван Шэга

**Раніцай 4 кастрычніка ў Слоніме памёр вядомы доктар і грамадскі дзеяч, заснавальнік недзяржаўнай установы «Шэгамедкансульт», каардынатар Слонімскага грамадскага цэнтра, былы дэпутат райсавета.**

Іван Шэга ўдзельнічаў у выбарчай кампаніі ў ПП ужо маючы цяжкую форму анкалогіі.

Яму было 63 гады. Родам доктар Шэга быў з вёскі Валеўка Навагрудскага раёна. Скончыў Валеўскую сярэднюю школу, а потым Мінскі медыцынскі інстытут. З 1980 года жыў і працаваў доктарам-траўматолагам у Слоніме. У 2013 годзе Шэга быў звольнены — на думку самога доктара, з палітычных прычынаў. Жыхары Слоніма нават збіралі подпісы за вяртанне яго да лекарскай працы.

Пасля таго, як яму не працягнулі кантракт, доктар стварыў недзяржаўную ўстанову «Шэгамедкансульт» і працягваў дапамагаць хворым людзям.

Апошнія дваццаць гадоў ён актыўна займаўся палітыкай, з'яўляўся сябрам Сойма Партыі БНФ, ужо хворым правёў парламенцкую кампанію. Свае разважанні і думкі пра лёс краіны ён выказаў і паспеў выдаць асобнай кнігай «Пра краіну і пра нас».

### Марыяна Шчоткіна

**Самы антысацыяльны міністр сацыяльнай абароны Беларусі перад сваім сыходам у Савет Рэспублікі «паклапацілася» пра бюджэтнікаў.**



Марыяна Шчоткіна абвясціла пра новы праект указа, які падрыхтавала яе ведамства.

Дакумент прадугледжвае змены ў сістэме аплаты працы работнікаў бюджэтнай сферы. Прапануецца зняніць сам падыход да фармавання памеру заработнай платы. «Гэта значыць, пакінуць пэўны аклад, а размеркаванне ўсіх стымулюючых надбавак аддаць кіраўнікам». Міністр лічыць, што гэта разняволіць ініцыятыву наймальнікаў, галіновых міністраў, якія па сваім меркаванні змогуць самі вырашаць, куды накіроўваць стымулюючыя надбаўкі.

Хутчэй за ўсё, тое, што Шчоткіна называе «новай сістэмай аплаты працы бюджэтнікаў», на самай справе стане спосабам знізіць выдаткі на бюджэтную сферу. Працоўныя будуць атрымліваць «голы аклад». Зыходзячы з яго, будуць лічыць адпускныя, бюлетэні і гэтак далей. Альбо «меркаванне кіраўнікоў» наконт надбавак будзе рэзка разыходзіцца з фактычнай працай, якую зрабіў той ці іншы работнік. І канцоў не знойдзеш, прэтэнзій нікому не прад'явіш — усё па законе.

Па вялікім рахунку, пасаду Шчоткінай сапраўды трэба перайменаваць у «міністр антысацыяльнага наступу». З яе падачы дзяржава адабрала ў людзей нават тое нямногае, што яны мелі: павышаныя дапамогі адзінокім маці, аплату бюлетэняў усім без выключэння, бясплатнае сацыяльнае абслугоўванне адзінокіх старых, гарантаваныя кватэры для дзяцей-сірот... І пад заслону міністэрскай кар'еры Шчоткіна яшчэ і пра бюджэтнікаў паклапацілася.



### Дар'я Домрачава

**Вядомая беларуская біятланістка нарадзіла дачку, з чым яе і віншуем. Нараджала Дар'я ў 6-м радзільным доме Мінска, вага дзіцяці — 3 кілаграма 650 грамаў. Імя дачкі на момант напісання матэрыялу вядомае не было.**

Нагадаем, вяселле Дар'я Домрачава і знакаміты нарвежскі біятланіст Уле-Эйнар Б'ёрндален згулялі ў Нарвегіі, а вось нараджаць Дар'я вырашыла ў Мінску. Першапачаткова беларуска абрала для нараджэння першынца 5-ю радзільню, але пазней змяніла сваё рашэнне. Пра тое, што Домрачава чакае дзіця, стала вядома ў красавіку гэтага года.

Выхоўваць дзіця сямейная пара плануе ў Мінску, дзе маладыя бацькі будуюць уласны дом. «Пасля родаў Даша плануе трэніравацца ў поўную сілу. Звычайна гэта дзве трэніроўкі ў дзень — і ў мяне, і ў яе. Вядома, спатрэбіцца дадатковая дапамога. Таму мы пачалі падшукваць добрую няньку», — выказаўся Б'ёрндален яшчэ да нараджэння дзіцяці.

Бацька адзначыў, што нараджэнне дзіцяці накладзе адбітак на будучы сезон і зробіць яго трохі незвычайным. Дарэчы, васьміразовы алімпійскі чэмпіён прысутнічаў на родах.

а | Азбука паліталогіі

# Два тыпы стабільнасці



Сяргей НІКАЛЮК

**За апошнія дзесяць гадоў колькасць песімістаў у Беларусі патроілася, а аптымістаў стала ў два разы менш.**




На жаль, далёка не кожны дзяржаўны чыноўнік надзелены здольнасцю «чуць пульс грамадства», але без такой якасці чалавек не можа адбыцца як прафесіянал. Вось таму артыкул у часопісе «Беларуская думка» (№ 7, 2016), прысвечаны гэтай тэме, прыцягнуў маю ўвагу. Павінен прызнацца, я не пашкадаваў пра час, выдаткаваны на яго чытанне.

Даю слова Алегу Мацкевічу, намесніку старшыні Віцебскага аблвыканкама: «Беларускае грамадства сутыкнулася з новым выклікам часу — культурна-ідэалагічнай агрэсіяй заходняга свету, негатыўнае ўздзеянне якога становіцца ўсё больш прыкметным».

Вось так: прыпаў дзяржаўны чыноўнік вухам да зямлі і, нібы быліныя героі, вызначыў сярод бытавога шуму жалезныя крокі культурна-ідэалагічных агрэсараў. У тым, што ад заходняга свету нам, беларусам, людзям мірным і талерантным, нічога добрага чакаць не даводзіцца, даходліва растлумачыў адзіны палітык (АП). У выступе 10 ліпеня 1996 года ён сваё знешнепалітычнае крэда сфармуляваў гранічна лаканічна: «Я сваю дзяржаву за цывілізаваным светам не павяду!».

Сказана — зроблена. За прыкладамі далёка хадзіць не патрэбна. Просты чалавек на іх літаральна спатыкаецца, варта яму толькі сутыкнуцца з дзейнасцю дзяржавы ў рэальнасці або ў віртуальнай прасторы СМІ.

Па дапамогу да апошніх я і звярнуся. 20 верасня АП прыняў з дакладам намесніка прэм'ер-міністра Міхаіла Русага і міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Леаніда Зайца. Гаворка, натуральна, зайшла пра ўборачную кампанію. Прыводжу найбольш яркае выказванне з афіцыйнага прэс-рэлізу: «Усім вам было даручана разабрацца з прэс-падборшчыкамі, якія заварочваюць кармы ў плёнку, — пры нашым клімаце гэта выратаванне. Нам трэба мець свае рулонныя прэсы, каб закрываць у плёнку кармы. Мы дамовіліся, што ў будучым годзе вы пакажаце беларускі прэс, які будзе не горш за нямецкі, дацкі або французскі».

У апошнім сказе нядобразычлівец можа разгледзець чарговы выклік з боку заходняга свету, і нават спробу нізкапаклонства перад яго культурна-ідэалагічнымі каштоўнасцямі. Маўляў, нядобра пра нашы рулонныя прэсы казаць, што яны «не горшыя» за нямецкія, дацкія і французскія. Нашы рулонныя прэсы, вытворчасць якіх ажыццяўляецца ў поўнай адпаведнасці з культурнымі традыцыямі беларускага народа і пад нястомным кантролем з боку ідэалагічнай вертыкалі, гатовыя даць любую фору ўсім заходнім аналагам.

Пакіну такога кшталту крытыку на сумленні нядобразычліўцаў. Для сур'ёзнага аналітыка, які жанглюе азбукавымі паліталагічнымі ісцінамі, выказванне АП утрымлівае практычна неабмежаваную колькасць сэнсаў. Спынюся ніжэй на адным з іх.

## Тры ленінскія прыкметы

Ангела Меркель — канцлер Германіі. Маргарэт II — каралева Даніі. Франсуа Аланд — прэзідэнт Францыі. А зараз — увага! — пытанне: хто з вышэйпералічаных палітычных дзеячаў здольны так дэталёва абмяркоўваць з міністрамі тэхналагічныя тонкасці заварочванню кармоў у плёнку? Пытанне рытарычнае, а калі так, дык нічога, акрамя культурна-ідэалагічнай агрэсіі, чакаць простаму беларусу ад заходняга свету не варта.

Нам — агрэсію, сабе — лідзіруючыя месцы ў спісе эканамічна развітых краін. У прыватнасці, у Даніі ВУП на душу насельніцтва па парытэце пакупніцкай здольнасці ў 2015 годзе склаў $ 45,7 тысячы (20-е месца ў свеце), у той час як у Беларусі — $ 17,7 тысячы (66-е месца).

І нам яшчэ пашанцавала. Заходні свет у сваёй агрэсіўнасці пакуль абмяжоўваецца культурна-ідэалагічным кампанентам. Але гэта часова. Нездарма ж дырэктар Інстытута сацыялогіі, прафесар Ігар Катляроў б'е ў набатны звон. Адкрыем апошні нумар часопіса «Сацыялагічны альманах», рэдактарам якога гэты маэстра сацыёлаг-палітолаг з'яўляецца: «У рэвалюцыях грузінскіх руж і кіргізскіх цюльпанаў, ва ўкраінскім — аранжавай і годнасці, у чарадзе арабскіх рэвалюцый адчувалася дасведчаная і моцная рука лялькавода, прагляваліся адзіны сцэнар, выкарыстоўваліся адны і тыя ж добра адпрацаваныя тэхналогіі. Усё было зроблена паводле адных і тых ж лякалаў. Цалкам відавочна, што гаворка ідзе пра адны і тыя ж сродкі, адны і тыя жа метады, адны і тыя ж палітычныя сілы адной і той жа мадэлі «грамадзянскай супольнасці супраць дзяржавы».

Вось такая сацыялогія, памножаная на паліталогію і нацыянальную самабытнасць. А ў аўтара цытаты, як падказвае інтэрнэт, дзве вышэйшыя адукацыі — Віцебскі тэхналагічны інстытут лёгкай прамысловасці (1971) і Мінская Вышэйшая партыйная школа (1982). Не ўпэўнены, што будучы прафесар у гады поўнай і канчатковай перамогі сацыялізму ў СССР меў магчымасць знаёміцца з працамі Эміля Дзюркгейма або Макса Вебера, але ведаць тры ленінскія прыкметы рэвалюцыйнай сітуацыі ён быў абавязаны, прычым ведаць так, каб ад зубоў адскоквала.

Нагадваю: няздольнасць вярхоў кіраваць па-старому; нежаданне нізоў жыць па-старому і значнае павышэнне актыўнасці мас, што прыцягваюцца як усім становішчам крызісу, так і самімі «вярхамі» да самастойнага гістарычнага выступу.

Цікава, дзе тут месца для моцнай рукі лялькаводаў?

## Дай асобе волю…

Гісторык Аляксандр Ахіезер вылучаў два тыпы цывілізацый — традыцыйны і ліберальны. Для першага тыпу ўласціва панаванне статычнага ўзнаўлення, для другога — дынамічнае, накіраванае на павышэнне сацыяльнай эфектыўнасці.

Беларусь у сваім гістарычным развіцці выйшла па-за рамкі традыцыйнай цывілізацыі, але перайсці мяжу ліберальнай цывілізацыі так і не здолела. Атрымалася своеасаблівая гістарычная паўкроўка з аслабленым імунітэтам да культурна-ідэалагічнай агрэсіі заходняга (ліберальнага) свету.

Тут варта нагадаць, што «грамадска карысная праца без разліку на матэрыяльную ўзнагароду» з'яўляецца адным з прынцыпаў, на якіх трымаецца наша ідэалогія, узведзеная ў ранг дзяржаўнай. Захад жа не кіем, дык палкай спрабуе навязаць нам утылітарызм (ад лацінскага «utilitas» — «карысць», «выгада»), які звязаны з узрастаннем значнасці паўсядзённых дабротаў, і ў першую чаргу матэрыяльных.

Гэта зараза, што руйнуе нашу духоўнасць, паступова прагрэсуе ад умеранага ўтылітарызму да развітога. Першы характарызуецца імкненнем павялічыць атрыманне выгодаў шляхам іх ураўняльнага пераразмеркавання і сацыяльнага ўтрымантства. Ён неаддзельны ад збіральніцтва, імкнення не столькі вырабіць, колькі дастаць. Як тут ні прыгадаць бясконцыя нафтагазавыя войны з «нашай Расіяй» за права адразаць добрыя кавалкі ад прыроднай рэнты.

Развітому ж утылітарызму ўласціва ўсведамленне сувязі паміж ростам дабротаў і ўласнай дзейнасцю па іх вытворчасці. Ён небяспечны тым, што патрабуе развіцця асобы, якая паступова пачынае пераходзіць ад эканамічных патрабаванняў да палітычных.

Дай асобе волю — і яна паставіць пад сумнеў права АП на маналог. Але ў традыцыйнай цывілізацыі першая асоба — аналаг кіраўніка патрыярхальнай сям'і (бацькі). Любая спроба ўступіць з ім у дыялог ствараe пагрозу яго манапольнаму праву на прыняцце рашэнняў, у тым ліку і праву даваць даручэнні міністрам разбірацца з прэс-падборшчыкамі.

## Рух з паскарэннем

Дыялог — прамая дарога да разнастайнасці, канкурэнцыі і развіцця. Ён несумяшчальны з цэнтралізаваным прыняццем рашэнняў. Ён несумяшчальны са стабільнасцю, пад якой разумеецца нязменнасць. У першую чаргу нязменнасць улады.

Рэзалюцыя Пятага Усебеларускага народнага сходу адкрываецца канстатацыяй захавання ў краіне палітычнай стабільнасці. Такое прызнанне «дарагога вартае». На працягу двух дзесяцігоддзяў беларускі варыянт стабільнасці трымаўся на высокім рэйтынгу АП і росце рэальных даходаў насельніцтва. Але абодва фактары стабільнасці сёння імкліва дэградуюць.

Здольнасць першай асобы дзяржавы быць крыніцай масавых надзей (упэўненасці ў заўтрашнім дні) — ключавая ўмова падтрымання рэйтынгу. Паводле дадзеных НІСЭПД, у чэрвені 2006 года індэкс чаканняў (розніца станоўчых і адмоўных адказаў на пытанне: «Як зменіцца сацыяльна-эканамічная сітуацыя ў Беларусі ў бліжэйшыя гады?») быў роўны 33 пунктам: 45% рэспандэнтаў адзначылі, што сітуацыя палепшыцца, і толькі 12% — што пагоршыцца. Праз дзесяць гадоў колькасць песімістычных адказаў патроілася, а аптымістычных скарацілася ў два разы. У выніку індэкс чаканняў стаў адмоўным і склаў -16.

З мэтай стымулявання масавых надзей дзяржава заблакавала працу незалежных сацыёлагаў. Такі вось спосаб барацьбы з рэальнасцю. На працу Белстата ён пакуль яшчэ не распаўсюджваецца, але хто дасць гарантыю, што пад грыф сакрэтнасці ў бліжэйшы час не патрапіць эканамічная статыстыка. Урэшце, усе эканамічныя паказчыкі і сістэма іх уліку — гэта яшчэ адзін прыклад культурна-ідэалагічнай агрэсіі заходняга свету. Для палітыка, які прымае рашэнні «ад жыцця», забарона на публікацыю эканамічнай статыстыкі будзе выглядаць вельмі арганічна.

Аднак прасты, далёкі ад палітыкі чалавек таксама схільны прымаць рашэнні «ад жыцця». Стабільнасць для яго — гэта перш за ўсё магчымасць існаваць на пенсію і зарплату, а такая магчымасць з кожным днём становіцца ўсё больш прывіднай.

Што да спецыялістаў па азбукавых паліталагічных ісцінах, дык яны вылучаюць «стабільнасць» двух тыпаў: звязаную з эвалюцыйным развіццём або, наадварот, з павольным загніваннем. Другі тып прыводзіць альбо да хаосу, што перыядычна і здараецца ў айчыннай гісторыі, альбо да абсалютнай стабільнасці могілак.

Ужо ў момант свайго фармавання беларуская мадэль пайшла па другім шляху, і зараз рухаецца па ім з паскарэннем, што пацвярджаецца пастаянным апеляваннем АП да тэмы стабільнасці. «Парадак, — як сцвярджае спецыяліст па пытаннях інфармацыйнай бяспекі Джэймс Дэрыян, — валодае найбольшым значэннем тады, калі ён згублены альбо губляецца». Са стабільнасцю абсалютна тая ж гісторыя.

# Смяротнае пакаранне: адмяніць неадкладна!

Сяргей ПУЛЬША

**Тыдзень супраць смяротнага пакарання ў Беларусі пачаўся дысанансна: Вярхоўны суд 4 кастрычніка зацвердзіў чарговы «выключны прысуд» у дачыненні да Сяргея Вострыкава. Пасяджэнне суда прайшло пад наглядам міжнародных праваабаронцаў, якія склалі справаздачу: «Смяротная кара ў Беларусі: забойства на (не)законных падставах».**




## Тыдзень супраць

Пра праблему смяротнага пакарання ў Беларусі казалі ўжо шмат разоў. Аднак сёлетняя справаздача праваабаронцаў — гэта ці не ўпершыню найбольш грунтоўны аналіз праблем гэтага віду пакаранняў у нашай краіне.

Даследаванне праводзілася з улікам і на фоне дыялогу паміж Захадам і Беларуссю па адмене смяротнага пакарання. У складзе місіі былі людзі з краін, якія нядаўна адмянілі смяротную кару. Дакумент рыхтаваўся пасля маштабнай канферэнцыі «Смяротная кара: пераадоленне рознагалоссяў», суарганізатарамі якой выступілі ў тым ліку і беларускія ўлады. А спецыяльны прадстаўнік ЕС па правах чалавека Стаўрас Ламбрынідзіс нават сустракаўся з Лукашэнкам, падымаючы пытанне і смяротнага пакарання ў тым ліку.

Грунтоўны аналіз паказаў, што беларускія ўлады, шмат гаворачы, пакуль не робяць нічога, каб змяніць сітуацыю да лепшага. Між тым, справаздача, прэзентаваная ўплывовымі міжнароднымі экспертамі, сведчыць: адмяніць смяротнае пакаранне ці ўводзіць на яго мараторый трэба неадкладна. Інакш мы проста заблытаемся ў судовых памылках ці наўпростых фальсіфікацыях, якія каштуюць жыцця.

У беларускіх уладаў заўсёды знаходзіцца апраўданні існавання смяротнай кары ў краіне. Маўляў, яна не забароненая міжнародным заканадаўствам. Яна — «стрымліваючы фактар» для злачынцаў. І ўвогуле, народ ухваліў яе на рэферэндуме. Аднак, з пункту гледжання экспертаў, апраўданні не вытрымліваюць крытыкі.

## Не забаронена?

Сапраўды, кажа прафесар права і экс-прэзідэнт Сусветнай кааліцыі супраць смяротнага пакарання Фларанс Беліўе, гэты від кары міжнародным заканадаўствам не забаронены. Але гэта не значыць, што дазволены.

Ужо болей чым дзве трэціны краін свету адмовіліся ад смяротнай кары, і цудоўна сябе адчуваюць. То бок, нельга сказаць, што смяротная кара — правіла ў свеце, яна, хутчэй, выключэнне.

Сапраўды, нават Другі пратакол да Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, які забараняе смяротную кару, з'яўляецца факультатыўным, то бок, неабавязковым для выканання. Тым не менш, смяротнае пакаранне заўсёды суправаджаецца іншымі парушэннямі ў галіне правоў чалавека, гэтымі міжнароднымі актамі забароненых.

У прыватнасці, гэта права на жыццё, — яго парушаюць усе краіны, якія не адмянілі смяротную кару. У беларускіх умовах — права на атрыманне інфармацыі. Гэта тычыцца як вязняў-«смяротнікаў», якія не ведаюць, калі іх расстраляюць, так і родных, якім не паведамляецца час і месца выканання прысуду, часцяком абмяжоўваецца ліставанне з асуджаным. Што далёка хадзіць — месца пахавання расстралянага ніколі не паведамляецца родзічам!

Родныя асуджанага таксама асуджаныя — на невядомасць, на няпэўнасць, на вырачаную бяздзейнасць, што прыроўніваецца да псіхалагічных катаванняў. А катаванні і жорсткае бесчалавечнае абыходжанне міжнародным правам якраз забароненыя. Часцяком у Сінявокай парушаецца права на абскарджванне прысуду, на справядлівае судовае разбіральніцтва, на доступ да адваката. Прынамсі, у шасці выпадках з 10 Камітэт па правах чалавека ААН высветліў, што мела месца парушэнне правоў асуджаных да смерці на тым ці іншым этапах іх справы.

Як адзначыла спадарыня Беліўе, Беларусь не зважае на тое, што справы асуджаных да смерці перадаюцца ў Камітэт ААН па правах чалавека, і расстрэльваюць іх, нават калі КПЧ ААН яшчэ вядзе сваё следства па іх. МЗС краіны ў адказ на гэтыя прэтэнзіі выразна заявіў, што рашэнні КПЧ ААН не з'яўляюцца абавязковымі для выканання. Але ж КПЧ ААН, зазначыла Фларанс Беліўе, — гэта якраз тая структура, якая адказная за імплементацыю Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, які Беларусь падпісала і абавязалася яго выконваць. Апраўданні МЗС, калі ўлічыць гэты факт, выглядаюць двухсэнсоўна.

## Стрымліваючы фактар

Тое, што смяротная кара з'яўляецца нейкім «стрымліваючым фактарам» і «прафілактыкай» цяжкіх і асабліва цяжкіх злачынстваў, вельмі любяць казаць нашы адказныя асобы. Але знайсці ўцямную інфармацыю з афіцыйных крыніц на тэму смяротных прысудаў амаль немагчыма, адзначае кіраўніца аддзелу Усходняй Еўропы і Цэнтральнай Азіі Міжнароднай федэрацыі па правах чалавека Саша Кулаева. Напрыклад, на сайце МУС Беларусі звесткі пра колькасць пакараных смерцю заканчваюцца на 2010 годзе.

А звесткі пра адзінае за дваццаць гадоў памілаванне прысуджанага да смяротнага пакарання ўвогуле знайсці немагчыма. Група, якая рыхтавала справаздачу, доўга шукала, калі і каго памілавалі, — і не адшукала. Па звестках прэсы, гэта было ці то ў 1996-м, ці ў 1999-м, ці ў 2000-м. Афіцыйнай інфармацыі — нуль.

Калі гэта «прафілактыка», то смяротная кара не павінна быць закрытая такой таямніцай — наадварот, пра яе ўлады павінны казаць ледзьве не з кожнага праса. Але не кажуць — маўчаць. Дык якая гэта прафілактыка?

«Прафілактычнае» ўздзеянне смяротнага пакарання абвяргаецца простай міліцэйскай статыстыкай. МУС Беларусі паведаміла пра здзяйсненне за 2015 год 4018 цяжкіх і асабліва цяжкіх злачынстваў. У 2014-м такіх было зафіксавана 3417. У 2013-м — 2190. У 2012-м — 1686. Такім чынам, нягледзячы на «прафілактыку» і «стрымліваючы фактар», за тры гады (з 2012 па 2015) «цяжкая злачыннасць» вырасла больш чым удвая. Дык што тады стрымлівае наяўнасць смяротнага пакарання?

## Што вырашылі на рэферэндуме?

Улады вельмі любяць спасылацца на выніку рэферэндуму 1996 года, дзе народ, нібыта, ухваліў захаванне смяротнай кары ў краіне. Маўляў, народ вырашыў — і ўсё.

Тая ж Саша Кулаева па-за ўвагай пакінула пытанне таго, што з часу таго апытання грамадскай думкі прайшло ўжо дваццаць гадоў. Яна толькі сказам абмовілася пра тое, што гэты рэферэндум не быў прызнаны як свабоднае волевыяўленне грамадзян. Яна задалася пытаннем: «Наколькі свядомым быў гэты выбар?» Сапраўды, што ў 1996-м грамадства ведала пра смяротнае пакаранне? Ці ведала яно, у якіх умовах утрымліваюцца «смяротнікі»? Як выконваюцца гэтыя прысуды? Як хаваюць пакараных смерцю? У якіх умовах знаходзяцца сем'і і родзічы расстраляных?

Ніхто пра гэта нічога не ведаў. Гэта зараз у інтэрнэце, дзякуючы, дарэчы, аматарам адмены смяротнага пакарання, можна знайсці адказы на гэтыя і іншыя пытанні. А тады інтэрнэт быў у адзінках арганізацый, не кажучы ўжо пра асобных грамадзян. Дык ці можна было даць у тых умовах асэнсаваны адказ на пытанне, якое камусьці каштавала жыцця?

## Ці справядлівы суд?

Але самае асноўнае пытанне, з-за якога смяротную кару трэба адмяніць, — гэта адсутнасць у Беларусі незалежнай судовай сістэмы і следства. Асаблівую занепакоенасць выклікае ў праваабаронцаў так званы «перыяд затрымання» за цяжкія і асабліва цяжкія злачынствы — да прад'яўлення абвінавачвання. Гэты тэрмін у дэмакратычных краінах складае не больш за 48 гадзін. У нас жа чалавека могуць трымаць у статусе «затрыманага» да 10 сутак. Прычым, пастанову пра затрыманне выносіць не толькі суд, але і пракуратура, Следчы камітэт, Камітэт дзяржаўнай бяспекі. То бок менавіта тыя органы, якія вядуць следства і зацікаўленыя ў раскрыцці злачынства.

Часта ў першыя 24 гадзіны затрыманаму не даюць адваката, а ўсяляк «ламаюць» яго псіхалагічна, а тое і фізічна, з мэтай «выбіць» з яго патрэбныя паказанні. Саша Кулаева адзначыла, што ў шмат якіх «расстрэльных» справах беларускі суд грунтаваўся толькі на гэтых паказаннях, дадзеных у першыя гадзіны пасля затрымання, і больш ніякія доказы пад увагу не прымаў.

Напрыклад, так было ў справе «тэрарыстаў» Канавалава і Кавалёва. Кавалёў агучыў на судзе, што даваў першыя сведчанні пад ціскам. Суд да гэтага не прыслухаўся. Яшчэ адзін «смяротнік», Павел Сялюн, наўпрост заявіў, што ён падпісаў свае паказанні пад катаваннямі. Усе скаргі судом былі праігнараваныя.

І яшчэ адзін яскравы факт «незалежнасці» беларускай судовай сістэмы: справа Грунова. Першапачаткова ягоны смяротны прысуд быў адменены па касацыйнай скарзе, справа была накіравана на новы разгляд. Аднак у той жа час Лукашэнка на сустрэчы з генпракурорам Аляксандрам Канюком запатрабаваў, каб падыход да такіх злачынцаў быў больш жорсткі. У выніку прысуд застаўся з той жа рэзалюцыяй — выключная мера пакарання.

## Нашчадкі Міхасевіча

Шмат хто ў Беларусі чуў пра «справу Міхасевіча» — судовую памылку, у выніку якой былі расстраляныя невінаватыя ў злачынствах людзі. Аднак няшмат хто ведае, што такія справы існуюць у Беларусі і зараз.

Асабліва цікавая ў гэтым справа Эдуарда Лыкава, які быў расстраляны ў 2013-м годзе. Сярод іншага ён прызнаўся ў забойстве, за якое ўжо быў асуджаны на восем год пазбаўлення волі іншы чалавек — Міхаіл Гладкі. З Гладкага «выбілі» прызнанне ў злачынстве, і ён правёў пяць гадоў у калоніі і яшчэ год і сем месяцаў — на папраўчых працах. З 2014 года Гладкі дамагаецца прыцягнуць да адказнасці асоб, якія «выбівалі» паказанні, што прывялі да несправядлівага прысуду. Пакуль беспаспяхова. Яму было нават адмоўлена ў пакрыцці маральнай шкоды: у сувязі з тым, што Гладкі... «добраахвотна агаварыў сябе ў здзяйсненні злачынства»! Гладкі толькі быў за кратамі, але ўсё магло быць і горш. Каб яго прыгаварылі да смяротнага пакарання.

А яшчэ ў праваабаронцаў ёсць справа Івана Фаміна, расстралянага ў 1998 годзе. Тое, што Фамін пад пагрозамі ўзяў на сябе «чужое» злачынства, пацвердзіў Алег Алкаеў, які быў кіраўніком СІЗА №1 у 1996–2001 гадах. Тым не менш, Фамін быў расстраляны.

## Ці будзе воля?

Такім чынам, смяротнае пакаранне ў сучаснай Беларусі толькі дае падставы для незваротнай судовай памылкі. І проста павінна быць адменена. Прынамсі Джым Казанс, намеснік старшыні прадстаўніцтва ЕС у Беларусі, спадзяецца, што сёлетнія смяротныя прысуды «будуць апошнімі ў гісторыі Беларусі».

Ён адзначыў, што ўвесці мараторый на смяротнае пакаранне можа парламент і кіраўнік дзяржавы. На гэта патрэбная толькі палітычная воля кіраўніцтва краіны.

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**Вядомы беларускі мастак, літаратар, культуролаг і мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі — шчаслівы чалавек. Ён лічыць, што, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, беларушчына ўрэшце пераможа. У чым яшчэ шчасце Сяргея Харэўскага? На гэта пытанне адказвае ён сам.**



Мінск. З дачкой Евай. 2009 год.
Фота Анатоля Кляшчука.

**Я вырас у вельмі дэмакратычнай і адукаванай сям'і, дзе цаніліся веды (амаль ва ўсіх сваякоў былі добрыя бібліятэкі), беларускае слова, народныя песні, таму арыентацыя на беларушчыну была натуральнай**

# Шчасце Сяргея Харэўскага

## Наканаванае шчасце

Пачынаючы з XVIII стагоддзя ўсе мае продкі (па абедзвюх лініях) жылі ля Мінску, дакладней, у засценку Астравы, што каля Міханавічаў. Яны арандавалі зямлю ў Мінскага кляштара бернардзінак, дзе цяпер знаходзіцца праваслаўны Кафедральны сабор.

Адзін з прапрадзедаў меў прозвішча Хмялеўскі, бо некалі для цяперашняга заводу «Алівaрыя» вырошчваў хмель. Гэта было яшчэ за часамі графа Чапскага. Яго нашчадак, мой дзед Аркадзь Паўлавіч Баркоўскі, яшчэ да вайны быў старшынёй калгаса. Яго не раз арыштоўвалі, аднак выпускалі — дзякуючы ганаровай грамаце, падпісанай Сталіным, за ўнёсак у сельскую гаспадарку і хмеляводства. Пасля вайны дзеда прызначылі галоўным хмеляводам Мінскага раёна.

Усе сваякі, якія потым перабраліся давучвацца ў Мінск, былі родам з навакольных вёсак, таму пытанне беларушчыны для мяне падавалася цалкам натуральным. Калі яны ехалі да бацькоўскіх хатаў на электрычцы, паміж сабой размаўлялі выключна на роднай мове. Мае бабкі, напрыклад, іншых моваў і не ведалі нават. Рускую чулі, канешне, але не карысталіся. Так што ў мяне не было нейкага «пошуку каранёў». Я іх ніколі не страчваў.

Па настойлівых просьбах настаўнікаў на базе школы №26 стварылі «мастацкі ўхіл», і я трапіў у новую плынь. Як педагог, сёння я разумею, што эксперымент тады быў проста бліскучым. Восем гадоў мне пашчасціла быць сярод будучай мастацкай эліты краіны.

Па наш дзень добрым словам узгадваю сваіх настаўнікаў — Абрама Львовіча Куцікава, Лідзію Майсееўну Хайфіну, Яўгена Мікалаевіча Саковіча і шмат каго яшчэ.

Дарэчы, менавіта Саковіч мяне і адкрыў як патэнцыйнага мастака. Ён прыйшоў у наш дзіцячы садок і ўбачыў намаляваныя мной чырвоныя макі. Малюнак яго так уразіў, што Яўген Мікалаевіч адразу патэлефанаваў бацькам і настаяў на мастацкай школе.

Мне наогул заўсёды вельмі шанцавала з людзьмі, якія сустракаліся на жыццёвай дарозе. Я вельмі ўдзячны за гэта лёсу і Госпаду. Ад таго, хто знаходзіцца побач, часта залежыць, кім мы вырастаем.

## Генетычная шчасце

Мой бацька, Васіль Якаўлевіч Харэўскі, доктар эканамічных навук, географ і сацыёлаг, працаваў у навукова-даследчым інстытуце горадабудаўніцтва. Ён займаўся пытаннямі ўрбанізацыі, таму ў мяне з дзяцінства асяроддзем былі яго калегі па рабоце. Маці — Людміла Аркадзеўна Харэўская, у дзявоцтве — Баркоўская. Унікальны чалавек, тонкі педагог і псіхолаг! У яе вельмі развітая схільнасць да самааналізу, псіхалогіі і аб'ектыўнага погляду на сітуацыю.



**Разам з бабцяй — Анастасіяй Кірылаўнай Харэўскай (з Адамовічаў), пач. 1970-х гадоў**

Напэўна, яна магла б стаць вядомай артысткай альбо некім яшчэ, аднак цалкам ахвяравала сябе сям'і. У нас заўсёды было трохразовае харчаванне, абед складаўся з трох страваў. Маці — бліскучы кулінар. Яна вельмі ганарылася маімі і бацькавымі поспехамі, таму імкнулася ствараць дома адпаведную атмасферу. У бацькі заўсёды былі накрухмаленыя кашулі і чыстыя гальштукі. Маці не шкадавала часу і шукала для нас лепшых у Мінску цырульнікаў.

Па адукацыі мама — эканаміст, скончыла сталічны фінансава-эканамічны тэхнікум. Працавала ў Беларускім дзяржаўным інстытуце інжынерных пошукаў, дзе яе начальнікам быў дзед Глеба Лабадзенкі. Усе жыццёвыя лёсы цудоўным чынам пераплеценыя.

Сястра Таццяна старэйшая за мяне на пяць гадоў. Яна скончыла геафак БДУ, працавала завучам у школе, зараз выкладае ў архітэктурна-будаўнічым каледжы. Мы заўсёды сябравалі, чым я вельмі ганаруся.

Наогул, у сям'і ніколі не было, так бы мовіць, розначытанняў. Ва ўсіх пачынаннях мяне заўсёды падтрымлівалі. Ні ў чым не было адмовы, калі што тычылася творчасці ці вучобы. Я адчуваў гэта з самага маленства, і з вышыні пражытых гадоў разумею, як мудра яны паступілі, калі не сталі збіваць з панталыку і рабіць з мяне таго, кім я не быў.

Усе мае сваякі прайшлі цяжкім жыццёвым шляхам. Мой бацька не ведаў свайго бацькі — вайна. Бабуля па маці была шаптухай, траўніцай, нонканфармісткай. Моцна не любіла бальшавікоў, і нават партрэт Сталіна зневажала. Даравалі толькі таму, што яна была ўдавой, якая адна выхоўвала шэсць дзяцей. Напэўна, яе яршысты характар перадаўся і мне.

Дзявочае прозвішча ў яе Адамовіч. Мы не сваякі знакамітаму пісьменніку, аднак усе Адамовічы пайшлі ад аднаго продка, які калісь з Каўказа, праз Малдову, пераехаў на «Літву». Усе маюць (калі ўважліва разглядаць фотаздымкі) трохі падобныя каўказоідныя рысы, усе з норавам.

Шмат каго з нашых сваякоў у сталінскія часы рэпрэсавалі, некаторыя трапілі ў Курапаты, таму можна толькі ўявіць, як цяжка было майму бацьку дасягаць у жыцці пэўных перамог. Як кажуць, прарывацца ў людзі.

Адзін бацькавы брат-блізнюк памёр ад голаду, другі брат Пётр у 1944 годзе быў прызваны на вайну і амаль адразу загінуў пад Ломжай, што ў Польшчы.

Падчас вайны бацькаў характар не аднойчы праходзіў выпрабаванні на трываласць і ўпартасць. Калі Пятра ўжо прызвалі ў войска, прыйшлі савецкія партызаны, каб забраць ягоныя боты! Партызаны хацелі чамусьці таксама спаліць і хату. Бацька скраў ад яе ключы і наўна думаў, што так перашкодзіць бядзе. Адзін з партызанаў злавіў яго на вуліцы і ў кроў збіў шомпалам. Прайшлі гады, бацька вырас і адпомсціў яму напоўніцу. Такі ў нас характар.

## Вандровачнае шчасце

Краінаў, дзе я быў, ужо дзясяткі, аднак самая першая вандроўка прыходзіцца на час вучобы ў мастацкай вучэльні. Тады з эцюднікамі мы двойчы аб'ездзілі ўсю Беларусь, і з сябрамі (Віктар Корзун, цяпер рэжысёр-дакументаліст, Цімафей Ізотаў, цяпер вядомы мастак і фатограф, які ўжо каля дзесяці гадоў стала жыве ў Маскве, Таццяна Цыпейнікава, Святлана Вярцінская, пераехаўшая ўжо даўно Парыж, і я) вырашылі «пашырыць геаграфію вандровак» і «аўтаспынам» паехаць на Каўказ.

Я звярнуўся да бацькоў па грошы. Яны, канешне, маглі і даць, але зрабілі інакш — прапанавалі дапамагчы іх зарабіць, 16 гадоў усё ж… Прыладзілі на хлебазавод да бацькавай сястры, якая там працавала загадчыцай лабараторыі. Так у мяне з'явілася працоўная кніжка і першы запіс у ёй — машыніст трэцяга разраду цестараздзелачных машын здоба-сушачнага цэха завода-аўтамат нумар адзін аб'яднання «Мінскхлеб».

Сутарэнні ХІХ стагоддзя, ніякай санітарыі, у цэху — плюс 50, за змену я спальваў па тры пары пальчатак. Сушкі ці булкі спачатку абпальваліся парай (пад 200 градусаў), пасля ішлі ў печ (пад 100 градусаў), а потым грузіліся рукамі ў машыны. Для мяне гэта стала сапраўднай школай жыцця — цяпер ведаю, як на стале з'яўляецца гарачы хлебушак.

Так сваімі мазалямі і апечанымі ў начныя змены рукамі я зарабіў на вандроўку. Бацькі далі грошы на тэлеграмы, каб ведаць, дзе ў дадзены момант я знаходжуся і як сябе адчуваю.

Мы аб'ехалі Заходні Каўказ: ад Анапы, Новарасійска, усю Абхазію, Грузію да турэцкай мяжы, потым блукалі па Асеціі і Кабардзе ды вярнуліся ў Мінск — мурзатыя, зашмальцаваныя, але шчаслівыя і чорныя ад загару.

А ўвогуле, мае падарожжы пачаліся яшчэ ў дзяцінстве. Бацькі ніколі не шкадавалі на іх грошы. Потым «ген вандроўніка» стаў рысай характару. Я аб'ездзіў абшары ад Паміра да Паўночнай Афрыкі. Адных толькі сплаваў па рэках Беларусі было 23. Такое ніколі ў жыцці не забываецца!

## Трывожнае шчасце

Цяжкую сялянскую працу я бачыў на прыкладзе маіх бабуляў і дзеда. І дзякуючы педагагічнаму таленту маіх бацькоў з маленства да яе прызвычаіўся, навучыўся касіць, хадзіць за канём. Канешне, пільнай патрэбы ў гэтым не было, але ўсіх дзяцей прывучалі да такой работы асэнсавана. Каб ведалі, што як робіцца і адкуль што бярэцца, адчувалі пах роднай зямлі.

Менавіта такім чынам я запомніў свайго дзеда Аркадзія Паўлавіча Баркоўскага. Ён быў аж з 1887 года нараджэння, і ўжо напярэдадні Першай сусветнай вайны сабраў сабе дрэва на хату.

Звычайна гэта бывала так. Дзед будзіў мяне (яшчэ дашкольніка) з усходам сонца, і я ішоў яму дапамагаць. Нейкую трэсачку паднесці альбо разам нешта папілаваць. Канешне, карысці ад такой дапамогі было няшмат, але выхаваўчы эфект — унікальны. Памятаю, асабліва любіў глядзець, як дзед плёў кашалі і аб нечым са мной размаўляў. Потым уставала бабка, даіла карову і збірала нам сняданак. Паснедаўшы, дзед сыходзіў па сваіх калгасных справах, аднак тыя пару гадзін — усё, што я пра яго памятаю.

У школе я вучыўся добра, але не адрозніваўся ўзорнымі паводзінамі. Знаходжанне за партай страшна напружвала, таму хацелася як мага хутчэй

сысці ў мастацкую вучэльню. Паступіў адразу пасля восьмага класа. Абраў педагагічнае аддзяленне, бо там была самая лепшая падрыхтоўка, да таго ж чатыры гады вучобы залічваліся ў працоўны стаж. Я марыў стаць мастаком-графікам.

Асобная размова — нашы педагагічныя практыкі: шаснаццацігадовы настаўнік выкладае дванаццацігадовым вучням урокі малявання і чарчэння. Калі ты здольны прыцягнуць іх увагу, то надалей будзеш спраўляцца з любой аўдыторыяй. Вельмі цікавымі былі і мастакоўскія практыкі, калі нас на месяц звазілі ў які-небудзь раён і вызначалі заліковую колькасць пейзажаў і нацюрмортаў.

Падчас майго паступлення «дыплом» рабіў Тодар Кашкурэвіч, які заўсёды размаўляў толькі па-беларуску, а ўжо вучыліся Міхал Анемпадыстаў, Ігар Варашкевіч, Лявон Вольскі з усёй будучай «Мрояй», Уладзімір Давыдоўскі, Алег Дземідовіч, заядлы нацыяналіст Юрась Мурашка і шмат хто іншы. У чарговы раз мне пашанцавала сустрэць на жыццёвым шляху добрых папленчыкаў.

У вучэльні апроч іншага я быў яшчэ ды-джэем амаль на ўсіх дыскатэках. Як вынік — шматлікія бойкі са сталічнымі пэтэвэшнікамі, «мясцовымі» на «бульбе», вельмі цяжкія траўмы, што потым ператварылася ў «годны да нестраявой службы». Але ганаруся, што выпала правесці першыя ў краіне дыскатэкі на беларускай мове.

Я вырас у вельмі дэмакратычнай і адукаванай сям'і, дзе цаніліся веды (амаль ва ўсіх сваякоў былі добрыя бібліятэкі), беларускае слова, народныя песні, таму арыентацыя на беларушчыну была натуральнай. Мастацкая вучэльня дадала да яе новых рысаў. Побач вучыліся людзі з усёй Беларусі, і мне як чалавеку камунікатыўнаму, які не ведаў «гарадской фанабэрыі», кампанію аднадумцаў было знайсці няцяжка.

Цалкам зразумела, чаму Міхал Анемпадыстаў прывёў нас у «Майстроўню», дзе я пазнаёміўся з Вінцуком Вячоркам, Сяргеем Дубаўцом, а потым, калі на базе «Майстроўні» стваралася «Талака», — з Алесем Сушам і светлай памяці Віктарам Івашкевічам. Усе яны былі значна старэйшыя, але адразу прынялі ў сваё асяроддзе. Зноўку — пашчасціла.

Хутка ў мастацкай вучэльні вакол мяне пачалі гуртавацца аднадумцы, неафіцыйна сфармавалася сябрына прыхільнікаў нацыянальнага адраджэння. Гэта і адыграла драматычную ролю ў наступных падзеях.

Мы сустракаліся, падоўгу размаўлялі пра беларускую гісторыю, але далей размоваў не ішло. І тады мае сябры вырашылі гэта выправіць. У дзень Савецкай Канстытуцыі над мастацкай вучэльняй з'явіліся бел-чырвона-белыя сцягі. Больш за тое, хлопцы сарвалі два сцягі СССР. Адзін выкінулі ў сметніцу, адзін паклалі замест анучы на ўваходзе.

Тры выходныя дні ніхто гэтага не заўважаў. У панядзелак усё і пачалося. Калі на новыя сцягі, не ведаючы, што гэта такое, не звярталі ўвагі, то анучу пад нагамі ўбачылі. Імгненна дзверы вучэльні закрылі. Нікога не выпускалі.

Гэта быў яшчэ толькі 1985 год. Распачалося следства. Падзея выпала на мой дзень нараджэння — 5 кастрычніка. Я нават не ведаў, што хлопцы вырашылі зрабіць такі падарунак, але гэта не выратавала. Хутка выявілі ўсіх нацыяналістаў і «нядобранадзейных», сярод якіх я быў лідарам. Пасля ў КДБ мяне знаёмілі з даносамі. Прачытаць, хто і што пра цябе сказаў, было каласальным узрушэннем. Атрымаць такі досвед у 17 гадоў — вельмі драматычна. Шчыра скажу, было страшна. Асабліва, калі прыйшлі на працу да маці, паказалі «корачкі», папрасілі вызваліць памяшканне «для беседы с Хоревской о её сыне»... Уяўляю, колькі сівых валасоў тады дадалося...

Маўляў, «пасля заняткаў я вёў нацыяналістычныя размовы, распаўсюджваў нацыяналістычную літаратуру, прыносіў малітоўнікі» і гэтак далей.

Сёння гэта гучыць смешна, а тады было не смеху. На допыты ў КДБ хадзіў некалькі месяцаў...

## У пошуках шчасця

З камсамолу мяне выключылі. З вучэльні таксама, бо акадэмічны адпачынак, у які я быццам бы сышоў па сваёй волі, быў фактычнай спробай адвесці «каток рэпрэсій». Я сышоў, каб адчапіліся ад астатніх.

Пасля каля года працаваў у выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя імя Пятруся Броўкі». Маючы, афіцыйна, адукацыю ў восем класаў, я быў рэдактарам аддзела каляровай ілюстрацыі. У мае непасрэдныя абавязкі ўваходзілі рэтушаванне і рэдактура фотаздымкаў і малюнкаў пяцітомнай энцыклапедыі па гісторыі мастацтва і культуры. Моцна гэтым захапіўся і пераглядзеў на слайдах (тады вельмі дарагое задавальненне. — заўвага А.Т.) усе беларускія помнікі. Прычым не проста праглядзеў, а вывучыў пад лупай кожны міліметр выявы кожнага помніка Беларусі. Пагадзіцеся, пра такое можна толькі марыць.

Там жа пазнаёміўся з унікальнай кампаніяй фатографаў-нонканфармістаў на чале з Георгіем Ліхтаровічам, якім заказвалі аздабленне кніжак нашага выдавецтва. Яны аб'ездзілі ўсю Беларусь і крытычна расказвалі шмат чаго цікавага. У краіне пачынала віраваць перабудова, і ў пачатку 1986 года я аднавіўся ў сваёй мастацкай вучэльні.

Я здаў усе экзамены на выдатна і збіраўся паступаць у тэатральна-мастацкі інстытут. Справа ў тым, што падчас працы ў энцыклапедыі я пазнаёміўся са светлым чалавекам Міхасём Раманюком, якога, на жаль, ужо няма сярод жывых. Ён быў выкладчыкам у тэатральна-мастацкім інстытуце і вельмі хацеў бачыць мяне сярод студэнтаў толькі-толькі створанага факультэта тэорыі і гісторыі мастацтва.

Два першых уступных экзамены я здаў на «выдатна», а трэці (пісьмовы і вусны) па гісторыі Беларусі на «тройку». Калі я даведаўся пра гэта і пачаў абскарджваць, скандаліць (маўляў, не можа быць), мяне выклікаў Раманюк і па-сяброўску сказаў, што з КДБ яго начальству быў званок... З Міхасём мы потым доўга сябравалі, а яго сын Дзяніс Раманюк — хросны бацька маёй дачкі.

Я вельмі яму ўдзячны за параду не губляць час. Я забраў дакументы і па размеркаванні паехаў у Краснапольскі раён. У Краснаполлі высветлілася, што вёска, куды мяне размеркавалі, ужо выселеная (пасля аварыі на ЧАЭС), усе будынкі закапаныя, але адпускаць не сталі. Каб не было «текучки кадров». Маўляў, мяне накіравалі да раённага аддзела адукацыі, а не да канкрэтнай школы. Сказалі: «Будзеш нам тут насценгазеты рабіць». Прапанавалі выбраць любую хату, бо трацiна Краснаполля ўжо з'ехала, але я абраў гасцініцу, дзе «выгоды» былі на вуліцы. Праз некалькі месяцаў міністэрства сярэдняй адукацыі ліквідавалі — мяне «адмацавалі».

У Мінску ўладкаваўся ў Інстытут гісторыі Акадэміі навук, дзе на той момант дырэктарам быў Георгій Штыхаў. Праз паўгода адбылося «скарачэнне штатаў», і зноў наконт мяне прагучаў «званок з КДБ». Натуральна, «скарацілі». Міхась Чарняўскі, з якім мне пашанцавала пазнаёміцца, парупіўся прыладзіць у інстытут «Белспецпраектрэстаўрацыя».

Я працаваў у археалагічным аддзеле, і на пяць гадоў маім непасрэдным начальнікам стаў Алег Трусаў. Алег Анатольевіч — вельмі дысцыплінаваны, патрабавальны, прынцыповы чалавек. Працаголік сам, і патрабуе гэтага ад іншых.


Анапа. 1973 год


У гарах Паміра, савецка-аўганская мяжа, Горны Бадахшан. 1989 год

Новая работа мне вельмі падабалася. Я працаваў тэхнікам-мастаком, то бок фіксаваў усе знаходкі, чарціў планы раскопак і г. д. Гэта цяпер у археолагаў ёсць лічбавыя фотаапараты і ксераксы, а раней усё рабілася асабіста, то бок — рукамі.

Дарэчы, тое, што я ўмею маляваць, адыграла значную ролю. Алесь Краўцэвіч гэта ўбачыў і прапанаваў аформіць вокладку яго кнігі «Стары гарадзенскі замак». З гэтага і пачалося маё супрацоўніцтва з рознымі выдавецтвамі. Я аформіў каля трох дзясяткаў кніг. У тым ліку і масавы школьны варыянт знакамітай «Песні пра зубра» Гусоўскага.

У 1988 годзе я паступіў у Ленінград на завочнае аддзяленне Інстытуту жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя Іллі Рэпіна Акадэміі мастацтваў СССР, дзе нікому не было справы да маёй каляпалітычнай дзейнасці і нейкіх анкет. Нягледзячы на конкурс у 20 чалавек на месца, я прайшоў. Акадэмія мела асобы статус. Вучыліся там пяць гадоў. Нам чыталі лекцыі лепшыя навукоўцы і знакамітасці Савецкага Саюза (акадэмік Дзмітрый Ліхачоў, літаратуразнаўца і культуролаг Юры Лотман, пісьменніца Таццяна Талстая, напрыклад) і вядомыя палітыкі, накшталт кіраўніка «Дэмплатформы» Юрыя Афанасьева. Шчырым прыхільнікам і ледзь не мецэнатам мастацтва быў сам Анатоль Сабчак. А яго дачку Ксюшу я памятаю яшчэ маленькай дзяўчынкай.

Мая вучоба скончылася ў 1992 годзе. Цікава, год таму сярод нашых прадметаў быў навуковы атэізм, а на апошнім курсе ён ператварыўся ў гісторыю рэлігіі і ледзь не ў закон Божы. Чытаў курс айцец Аляксандр, які потым стаў кіраўніком маёй дыпломнай работы. Менавіта падчас вучобы нам давялося перажыць «паўлаўскую рэформу» і распад Савецкага Саюза.

Паралельна ў мяне яшчэ было і «беларускае жыццё». Сяргей Дубавец, з якім мы сябравалі і часта кантактавалі, бо жылі побач на Пуліхава, прапанаваў мне ў якасці мастацкага рэдактара заняцца газетай «Свабода», якую ён потым перадаў Ігару Герменчуку.

Друкавалася мы ў Магілёве. 19 жніўня 1991 года я здаваў чарговы нумар і прама ў друкарні даведаўся, што адбыўся путч. Пазваніў Герменчуку, вырашылі тэрмінова перарабіць першую паласу.

Дарэчы, усе вакол былі заадно з намі — друкары, начальнікі, міліцыянты. Напэўна, тысячу нумароў рабочыя выцягнулі, як кажуць, «з пад станка». Думкі ў людзей ужо былі іншымі, таму, на мой погляд, ёсць сэнс вярнуцца да 1989 года, калі ў Вільні адбыўся ўстаноўчы з'езд Беларускага Народнага Фронту.

Я там быў дэлегатам, таму галасаваў за ўсе пастановы. На рабоце многія цесна кантактавалі з Зянонам Пазьняком, і наш актыўны ўдзел ва ўстаноўчым з'ездзе цалкам лагічны.

Да слова, я таксама меў адносіны да «Тутэйшых», але гэта асобная тэма. Таксама быў і кур'ерам ад Дубаўца да Міколы Статкевіча. Сяргей тады рэдагаваў статут Беларускага згуртавання вайскоўцаў. А потым Дубавец прапанаваў пераехаць у Вільню і адрадзіць «Нашу Ніву» там, дзе яна і пачалася. Пяць гадоў майго жыцця сталі «віленскімі». У тым ліку і звязаныя з крывавым штурмам тэлевежы.

У тыя часы было шмат цікавых падзей, пра якія ёсць сэнс расказаць асобна, аднак зараз, карыстаючыся выпадкам, я хачу добрым словам узгадаць светлай памяці Таццяну Дубавец, якую многія ведаюць па дзявочаму прозвішчу Сапач. Зямля пухам мужнай і прыгожай жанчыне!

У 1996 годзе рэдакцыя пераехала ў Мінск і праз пэўны час Сяргей Дубавец перадаў кіраванне Андрэю Дынько. Я пакрысе дыстанцыяваўся, бо заставаўся яшчэ ў Вільні.

У 2003-м прадаў усю літоўскую маёмасць і вярнуўся ў Мінск. Скончыў тут аспірантуру Акадэміі мастацтваў (былы тэатральна-мастацкі інстытут) і там жа (каб не страціць кваліфікацыю) крыху выкладаў. Заробкі, натуральна, былі мізэрныя.

Асобна хачу падзякаваць за падтрымку ў гэты няпросты момант майго жыцця сябру Адаму Глобусу, які прыцягнуў мяне да выдавецкіх справаў і напісання кніг ды сяброў-філосафаў Алеся Анціпенку з Валянцінам Акудовічам, якія прапанавалі чытаць лекцыі ў Беларускім калегіюме. Потым пісьменнік Ігар Бабкоў сагітаваў папрацаваць у ЕГУ, то бок зноў вярнуцца ў Літву. Супрацоўнічаю там з імі і зараз.

Закончу рэфрэнам, які прайшоў праз усю гэтую размову: вельмі важна, якіх людзей ты сустрэнеш на жыццёвым шляху. Мне пашчасціла сустрэць лепшых!

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ІСПАНІЯ. Дэкалумбізацыя Барселоны

Фракцыя левай нацыяналістычнай партыі «Кандыдатура народнага адзінства» (CUP) у барселонскім муніцыпалітэце выступіла з прапановай знесці славуты помнік Хрыстафору Калумбу, які знаходзіцца каля гарадскога порту. На думку ініцыятараў прапановы, Калумб з'яўляецца сімвалам каланізацыі, ахвярай якой стала не толькі Амерыка, аднак і Каталонія. Помнік Калумбу прапануецца разбурыць, а на яго месцы ўсталяваць новы манумент — ён, як мараць у CUP, павінен сімвалізаваць пратэст супраць імперыялізму і рэпрэсій супраць індзейцаў Амерыкі. Прапанова прагучала напярэдадні 12 кастрычніка, калі святкуецца не толькі дзень адкрыцця Амерыкі, але і Дзень Іспанскасці — любімы дзень іспанскіх дзяржаўнікаў. З гэтай прычыны шмат хто разглядаў ідэю CUP як антыіспанскі дэмарш. Тым не менш, іншыя каталонскія нацыяналістычныя партыі, якія маюць большасць у гарсавеце Барселоны, праект дэкалумбізацыі не падтрымалі. На іх думку, сумнеўна лічыць Калумба каланізатарам.

**Паводле іспанскай прэсы**

### ТАТАРСТАН. Уласны «Pussi Riot»

У Татарстане выспявае рэлігійны скандал. Пачалося з таго, што ў верасні ў сеціве з'явіўся кліп татарскай спявачкі Жаным («Мая Душа» па-татарску). Жанчына, цела якой ледзь прыкрытае, танчыць каля Белай мячэці ў святым для татарскіх мусульман горадзе Болгар. Відэа выклікала гнеў іерархаў Духоўнага ўпраўлення мусульман Татарстана, якія пабачылі ў гэтым «апаганьванне храма». Акрамя таго, яны параўналі кліп з так званым панк-малебнам групы «Pussi Riot» у храме Хрыста Збаўцы ў 2012 годзе ў Маскве. Сама спадарыня Ганіуліна (сапраўднае прозвішч Жаным) ужо папрасіла прабачэння за тое, што адбылося. «Гэта мой сцэнічны вобраз. Усходнія танцы — гэта мой стыль, мая асаблівасць», — напісала яна на сваёй старонцы ў сетцы. Аднак казанскія следчыя ўсё ж пачалі праверку па факце запісу мясцовай спявачкай відэароліка на фоне мячэці. Такую актыўнасць сілавікоў у справе Жаным шмат хто тлумачыць гісторыяй з Элтанам Джонам, які пару гадоў таму гастраляваў у Татарстане. Напярэдадні яго канцэрту ў Казані муфціі дамагаліся забароны канцэрту артыста, які вядомы сваёй нетрадыцыйнай сексуальнай арыентацыяй. Аднак тады іх праігнаравалі. Мяўляў, сёння чыноўнікі вырашылі рэабілітавацца ў вачах царквы за кошт справы Жаным.

**Паводле расійскай прэсы**

### ЗША. Гей-парад у коміксах

Аматары коміксаў занепакоеныя навінамі са славутага выдавецтва «DC Comics», дзе прыдумалі шмат папулярных герояў жанру. Супрацоўнікі «DC Comics» вырашылі падтрымаць ідэю — надаць некаторым персанажам нетрадыцыйную сексуальную арыентацыю. У прынцыпе, гэта не першы выпадак. Яшчэ ў 2014 годзе адзін з герояў серыі «Людзі Х» ажаніўся з мужчынам. Аднак там быў герой другога плану, а тут у сексуальныя меншасці вырашылі запісаць «Цуда-жанчыну» (англ. Wonder Woman). Wonder Woman — гераіня серыі коміксаў, якія выдаюцца аж з 1941 года. Яна — адна з пяці герояў коміксаў, гісторыі пра якіх не спынялі выпуск пасля Другой сусветнай вайны. Паводле сюжэту, Wonder Woman — прынцэса амазонак, у сябе на радзіме вядомая як Дыяна. Дыяна — вопытная ваяўніца, якая валодае звышчалавечай сілай. У папярэдніх выпусках Wonder Woman мела сімпатыю да хлопцаў, напрыклад, да Артура — таксама супергероя. Аднак цяпер вырашана прыдумаць ёй каханку. Навіна выклікала супярэчлівыя водгукі сярод аматараў коміксаў. Яны баяцца, што новыя забабоны гераіні парушаць любімы імі традыцыйны вобраз. Аднак самае смешнае, што ў наступным годзе на экраны выходзіць фільм «Wonder Woman», у якім у Дыяны раман з нейкім амерыканскім лётчыкам.

**Паводле нямецкай прэсы**

### КАЛУМБІЯ. Правал наркарэвалюцыі

Венесуэльская апазіцыя арыгінальна пракаментавала вынікі рэферэндуму ў суседняй Калумбіі, дзе большасць прагаласавалых выказалася супраць мірнай дамовы з партызанамі з лявацкай групоўкі FARC. Супраць міру прагаласавала 50,2 працэнта калумбійцаў. На думку венесуэльскіх антычавістаў, гэта быў свядомы выбар супраць пагрозы прыходу да ўлады камуністаў, якія звязаныя з наркамафіяй. Мяўляў, праект цяперашняй мірнай дамовы быў планам, распрацаваным у Гаване, дзе адбываліся перамовы. Яго аўтары падкупілі калумбійскага прэзідэнта Сантаса, каб той пасля плебісцыту амніставаў экстрэмістаў і дазволіў іх удзел у палітычным жыцці краны. Паколькі камуністы абапіраюцца на рэсурсы наркамафіі, яны маглі быць пагрозай для ўсяго лацінаамерыканскага кантыненту. Цікава, што афіцыйныя ўлады ў Каракасе таксама віталі вынікі плебісцыту. Для іх рэферэндум ёсць вышэйшая форма дэмакратыі, як казаў вялікі Уга Чавес.

**Паводле іспанскай прэсы**

# Вынікі адзінства

Алег НОВІКАЎ

**Германія 3 кастрычніка адсвяткавала Дзень Германскага адзінства і ўзгадала яшчэ раз пра тое, што ёй дало аб'яднанне.**

Дарэчы, спачатку святкаваць Дзень Германскага адзінства прапаноўвалі 9 лістапада. Менавіта ў гэты дзень у 1989 годзе натоўп усходніх берлінцаў пачаў руйнаваць Берлінскую сцяну — сімвал падзелу Германіі. Аднак ад гэтай даты было вырашана адмовіцца, паколькі менавіта 9 лістапада 1923 года ў Мюнхене адбыўся «Піўны путч» (спроба дзяржперавароту, здзейсненая Гітлерам), а ў ноч на 10 лістапада 1938 года па Германіі пракаціліся яўрэйскія пагромы («Крыштальная ноч»). Таму для свята абралі 3 кастрычніка — гэты дзень звязаны з фактычным аб'яднаннем ФРГ і ГДР у 1990 годзе.

Праз пэўны час першапачатковая эйфарыя з нагоды ўз'яднання нямецкага народа саступіла месца нялёгкай трансфармацыі эканомікі Усходняй Германіі. Адразу пасля аб'яднання яна «пайшла на дно», бо была не ў стане канкураваць з таварамі з Заходняй Германіі і іншых краін з рынкавай эканомікай. Пагоршыў сітуацыю развал сістэмы ўзаемнага гандлю былых сацыялістычных краін, хутка расло беспрацоўе.

У сувязі з гэтым федэральны ўрад і заходнія землі дамовіліся даць новым усходнім сябрам дадатковыя фінансавыя сродкі для пераадолення цяжкасцяў. Быў нават уведзены новы падатак для юрыдычных асобаў — так званы «падатак салідарнасці», які складаў 7,5 працэнта. Гэтыя сродкі павінны былі пайсці на тое, каб да 2004 года падняць эканамічнае развіццё новых земляў на ўзровень, які можна было б супаставіць з узроўнем развіцця заходніх федэральных зямель. Адпаведны «пакт салідарнасці» набыў моц у 1995 годзе. Аднак, калі стала зразумела, што дасягнуць пастаўленай мэты да 2004 года не атрымаецца, быў прыняты другі «пакт салідарнасці», які прадугледжваў працяг фінансавай дапамогі да 2019 года.

Вынік рэалізацыі гэтых праграм можа назіраць зараз. З 2006 года на ўсходзе Германіі пачалася тэндэнцыя скарачэння колькасці беспрацоўных (на піку беспрацоўе ў экс-ГДР складала 18,8 працэнта). У 2013 годзе некаторыя з рэгіёнаў, якія раней уваходзілі ў склад ГДР, сталі выглядаць па гэтым паказчыку нават лепш, чым старыя федэральныя землі. За мінулыя гады паўсталі тысячы новых прадпрыемстваў. Толькі ў развіццё мясцовага транспарту, у рэканструкцыю і рамонт дарог і ў ачыстку водных шляхоў у новых федэральных землях было ўкладзена 40 мільярдаў еўра. Сярэдні даход у новых землях вырас на 85 працэнтаў. У



**У 2013 годзе некаторыя з рэгіёнаў, якія ўваходзілі ў склад ГДР, сталі выглядаць нават лепш, чым старыя федэральныя землі. Сярэдні даход у новых землях вырас на 85%. У некаторы час тэмпы росту ВУП на ўсходзе былі параўнальныя з ФРГ перыяду «эканамічнага цуду»**

некаторы час тэмпы росту ВУП на ўсходзе былі параўнальныя з тымі, якіх Федэратыўная Рэспубліка Германія дасягнула ў пасляваенны час, у перыяд эканамічнага цуду.

Праўда, эканамісты лічаць, што рэформы на ўсходзе трэба працягваць і далей. Для дасягнення канчатковага адзінства з эканамічнага пункту гледжання важнае значэнне будзе мець, перш за ўсё, фінансавая падтрымка, якую, магчыма, давядзецца працягнуць і пасля 2019 года. У далейшым трэба павышаць капіталізацыю ўсходненямецкіх прадпрыемстваў, сістэматызаваць інвестыцыйныя праграмы і ўкладанні ў навуку і даследаванні. Рэалізацыя гэтых планаў павінна замацаваць вядучую ролю Германіі на старым кантыненце.

Так здарылася, што на працягу 26 гадоў дата 3 кастрычніка служыла падставай, каб задумацца, наколькі зраўняліся эканамічныя ўмовы жыцця і настроі ў грамадстве ў некалі падзеленых Усходняй і Заходняй Германіі. Пры гэтым, на жаль, апускаецца чалавечы аспект аб'яднання. Напрыканцы 1980-х гадоў моладзь ГДР мела пачуццё грамадскай і сацыяльнай дэзарыентацыі, паколькі штодзённае жыццё ўсё больш уступала ў супярэчнасць з афіцыйна дэклараванымі нормамі. Не дзіўна, што большасць удзельнікаў масавых выступаў у ГДР увосень 1989-га — гэта былі людзі 25–40 гадоў.

Аб'яднанне дало шанец для маладых усходніх немцаў з ГДР не толькі адкрыць для сябе свет, атрымаць адукацыю, аднак і зрабіць кар'еру. Лепшым прыкладам тут з'яўляецца персона Ангелы Меркель, якая да падзення Берлінскай сцяны была сціплай лабаранткай на ўсходзе краіны.

За гады пасля разбурэння Берлінскай сцяны з усходніх зямель у заходнія перасяліліся 2,7 мільёна з 16,5 мільёна чалавек — і гэта, у асноўным, адукаваныя маладыя людзі. З заходніх жа зямель на ўсходнія прыехалі 1,6 мільёна чалавек, у асноўным бізнесмены і менеджары.

Яшчэ адно з наступстваў уз'яднання — рост ролі Германіі на міжнароднай арэне. Аб'яднанне з ГДР істотным чынам змяніла статус краіны. За 26 гадоў пасля аб'яднання Германія ператварылася ў краіну, якая карыстаецца бясспрэчным аўтарытэтам у Еўропе і нефармальна лічыцца яе эканамічным і палітычным лідарам. А падзеі вакол Украіны выразна прадэманстравалі, што нямецкае лідарства не зводзіцца да ўнутранай палітыкі Еўрасаюза. Берлін усё часцей выступае і дзейнічае ад імя ЕС у міжнародных адносінах, змяншага, калі справа тычыцца ўсходніх суседзяў аб'яднання. Новы статус краіны паўплываў і на ўнутрыпалітычную дыскусію, якая выйшла на якасна новы ўзровень.

Застаецца адзначыць, што Дзень Германскага адзінства—2016 таксама надаў святу новыя вымярэнні. У сувязі з тым, што з пачатку 2015 года ў Германію прыбыло каля мільёна мігрантаў, краіна сутыкнулася з новымі выклікамі ў выглядзе росту ксенафобіі на ўсходзе, у якіх бачаць своеасаблівы латэнтны сепаратызм.

Аднак наўрад ці гэта ўяўляе сур'ёзную пагрозу дэзінтэграцыі краіны. Немцы вельмі доўга і ўпарта змагаліся за адзінства. Гэта тэма стала вельмі важным складнікам для нацыянальнай ідэнтычнасці, пра што сведчыць гістарычны факт. У 2004 годзе канцлер Герхард Шродар прапанаваў пазбавіць Дзень яднання статусу непрацоўнага дня. На думку кіраўніка Германіі, яднанне зямель можна было проста адзначаць у першую нядзелю кастрычніка. Супраць такой прапановы ўзнялося ўсё грамадства, у тым ліку і прэзідэнт Германіі Хорст Кёлер. У выніку 3 кастрычніка ў Германіі так і засталося непрацоўным днём.

# Смяротнае пакаранне ў СНД

Алег НОВІКАЎ



**Як не дзіўна, але 26 мая 1947 года Прэзідыум Вярхоўнага савета СССР выдаў Указ «Аб адмене смяротнага пакарання». І хаця фармальна гэты ўказ дзейнічаў да 1961 года, але фактычна караць смерцю «здраднікаў, шпіёнаў і дыверсантаў» пачалі ўжо праз тры гады. Але з распадам СССР сітуацыя змянілася.**

На сённяшні дзень сярод былых рэспублік СССР толькі Беларусь захавала смяротнага пакаранне. Зразумела, што ад смяротнай кары адмовіліся Літва, Латвія і Эстонія. Аднак і ў краінах СНД не прымяняецца гэта пакаранне.

Хаця на момант атрымання незалежнасці крымінальнае заканадаўства постсавецкіх рэспублік утрымлівала ў сярэднім каля 30 артыкулаў, якія прадугледжвалі пакаранне смерцю. Паступова праз лібералізацыю заканадаўства іх колькасць значна скарацілі. Быў пашыраны імунітэт для некаторых катэгорый насельніцтва. Аднак самыя радыкальныя рэформы ў гэтай галіне пачаліся з сярэдзіны 1990-х гадоў, калі краіны СНД абвяшчалі мараторый на смяротнае пакаранне.

Напрыклад, у Расіі мараторый дзейнічае ўжо 20 гадоў. Апошні смяротны прысуд быў здзейснены ў жніўні 1996 года. З 1998 да 2006 года мараторый дзейнічаў у Кыргызстане. А з 2006-га гэта краіна на падставе канстытуцыі цалкам адмяніла смяротнае пакаранне.

Таксама з 2006 года ад смяротнага пакарання адмовіліся Арменія, Азербайджан, Грузія, Казахстан, Малдова і нават Таджыкістан. У іншых краінах дасюль дзейнічаюць мараторыі на такое пакаранне.

Пры гэтым ні ў адной краіне не было рэферэндумаў на гэты конт. Смяротнае пакаранне забаранялі пастановамі парламента, указамі прэзідэнта або вердыктам Канстытуцыйнага суда. Гэты аспект спрыяе таму, што ў шматлікіх краінах СНД дасюль няма кансэнсусу наконт гэтага пытання. Як следства, там-сям назіраюцца прыступы насталыгіі па часах, калі злачынцаў ставілі да сценкі.

Звычайна аматары прынцыпу «вока за вока» актывізуюцца па слядах нейкіх гучных злачынстваў. Так было, напрыклад, у Кіргізіі, дзе ў 2014-м педафіл забіў двухгадовае дзіця. Вельмі моцная кампанія за вяртанне смяротнага пакарання назіралася ва Украіне ў 2009 годзе, калі ў судзе вырашаўся лёс маньяка Сяргея Ткача. Ткач, да таго, як яго злавілі, пазбавіў жыцця 37 чалавек. Больш за ўсё грамадства было шакаванае тым, што сярод забітых ім была дзяўчынка, у згвалтаванні і забойстве якой абвінавацілі яе бацьку. У турме той мужчына павесіўся.

Да апошняга Майдана асноўнымі прыхільнікамі смяротнага пакарання ва Украіне выступалі камуністы, якія чатыры разы спрабавалі прасунуць адпаведны законапраект у Вярхоўнай Радзе. Цяпер «лабістамі смерці» з'яўляюцца радыкальныя нацыяналісты. Так, экс-камандзір батальёну «Днепр» Юрый Бяроза патрабаваў вярнуць расстрэльныя артыкулы, каб можна было караць здраднікаў радзімы і карупцыянераў. Такі падыход падтрымалі ветэраны вайны на Данбасе. Адзін з абаронцаў Данецкага аэрапорта скардзіцца: «Чаму хлопцам падаравана права паміраць за краіну, а людзі, пра якіх даказана, што яны здрадзілі і паслалі хлопцаў на смерць, павінны жыць, а мы — утрымліваць іх да канца жыцця? Гэта няправільна».

Ідэя ўвесці смяротнае пакаранне звычайна набірае папулярнасць, калі крымінагенная сітуацыя пагаршаецца. Існуе зманлівае перакананне, што два-тры дэманстратыўныя расстрэлы ацвярозяць адмарозкаў. Пасля нядаўніх тэрактаў у казахскім Акцюбе і ўвядзення ў Казахстане асаблівага антытэрарыстычнага рэжыму пра магчымасць адмены мараторыя на смяротнае пакаранне загаварылі на самым высокім узроўні. Да гэтага асабіста заклікаў Нурсултан Назарбаеў, заўважыўшы ў сваім звароце да нацыі: «Той, хто ўзяў у рукі зброю і забіў чалавека, павінен быць прысуджаны да пакарання смерцю». Казахскія палітолагі баяцца, што яшчэ адзін буйны тэрарыстычны акт, параўнальны з інцыдэнтам у Акцюбе, можа падштурхнуць уладу да вяртання расстрэлаў.

Цікава, што адным з аргументаў аднаўлення пакарання смерцю ва Украіне ёсць беларускі прыклад. Чамусьці лічыцца, што смяротная кара — ледзь не фундамент беларускай сацыяльна-эканамічнай стабільнасці. А вось у Сярэдняй Азіі, наадварот, захапляюцца кітайскімі метадамі.

Аднак наўрад ці прыхільнікі пакарання смерцю возьмуць верх нават у краінах СНД. Па-першае, аднаўленне смяротнага пакарання супярэчыць шматлікім міжнародным абавязкам дзяржаў СНД, дзякуючы якім яны атрымліваюць дапамогу. Па-другое, тэма ўзнаўлення смяротнага пакарання — любімая фішка папулістаў, якія напярэдадні выбараў гатовыя абяцаць усё, што заўгодна. Трапіўшы ва ўладу, яны, як правіла, хутка забываюцца на сваю выбарчую лексіку.

Нарэшце, у адміністрацыях краін СНД прыдумалі схемы, як тушыць падобныя ініцыятывы. Найперш, грамадству намякаюць на тое, што пажыццёвы тэрмін — далёка не цукар для асуджанага. Так, па стане на 2003 год у Казахстане з 266 смяротнікаў, якіх не пакаралі з-за мараторыя, 89 асобаў самі памерлі ў турмах або здзейснілі суіцыд.

Аднак самае галоўнае, што ў самім грамадстве ёсць моцнае непрыманне смяротнага пакарання. Людзі ў краінах СНД могуць падтрымліваць смяротныя вердыкты, аднак кожны з іх недзе ў душы разумее — мясцовая судовая сістэма цалкам падкантрольная выканаўчай уладзе і палітычна з ёй афіляваная. У такой сітуацыі адмена мараторыя на смяротнае пакаранне небяспечная, паколькі па палітычных (ці іншых) матывах можна пазбавіць чалавека самага дарагога — жыцця. А потым можа аказацца, што прысуд быў несправядлівы.

Апошняе сведчыць, што забарона смяротнага пакарання ў СНД — не штучная прававая норма, якая была навязаная грамадству Захадам. Хочацца толькі спадзявацца, што такі аргумент супраць смяротнага пакарання, як страх перад дзяржаўным сваволлем, будзе дапаўняцца спасылкамі на ідэі гуманізму і прынцыпы міжнароднага права.

**Тэма ўзнаўлення смяротнага пакарання — любімая фішка папулістаў, якія напярэдадні выбараў гатовыя абяцаць усё, што заўгодна**

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Сюзана Дыяс



Лічыцца, што менавіта 41-гадовая кіраўніца андалузскай секцыі Іспанскай рабочай сацыялістычнай партыі (PSOE) і рэгіянальнага ўраду была арганізатарам унутрыпартыйнага перавароту, у выніку якога 2 кастрычнікам рашэннем кіраўніцтва быў зрынуты папярэдні старшыня Педра Санчас. Цяпер, хутчэй за ўсё, сеньёра Дыяс павядзе партыю ўжо на трэція датэрміновыя выбары ў парламент (па выніках папярэдніх выбараў так і не ўдалося сфармаваць урад). Праўда, да новых выбараў можа не дайсці, паколькі час на фармаванне кааліцыі яшчэ ёсць. Тым больш, што, у адрозненні ад Санчаса, Дыяс не так катэгарычна ставіцца да ідэі сумеснага з кансерватарамі ўраду. Апошні катэгарычна адмаўляўся стварыць урад пад кіраўніцтвам Марыяна Рахоя, лідара кансерватараў. Так ці інакш, адстаўка Санчаса сведчыць, што рэформа PSOE правалілася. Еўрапейскія палітолагі разглядаюць разборкі ўнутры сацыялістаў як праяву больш глабальнага працэсу — агоніі ўсёй сацыял-дэмакратыі ў Еўропе, якая не здолела стаць партыяй антыкапіталістычнай альтэрнатывы. У гэтым плане не выключана, што Іспанія пойдзе шляхам Грэцыі, дзе нішу асноўных крытыкаў неалібералізму захапілі левыя радыкалы з «Syriza». Іх іспанскі аналаг «Podemos» не хавае таго, што гатовы прыняць у свае шэрагі прыхільнікаў Санчаса. Застаецца дадаць, што леваму правадыру брытанскіх лейбарыстаў Корбіну ўдалося ў адрозненні ад Санчаса ўтрымацца пры ўладзе ў партыі, аднак працэнт яго падтрымкі пакуль даволі нізкі.

### Шаўкат Мірзіёеў



Выконваючы абавязкі прэзідэнта Узбекістана пасля смерці Іслама Карымава даў зразумець, што будзе кіраваць у духу папярэдніка, якому быў характэрны аўтакратычны стыль. Калі верыць турэцкім СМІ, 4 кастрычніка па загаду Мірзіёева была змешчаная ў псіхіятрычны шпіталь Гульнара Карымава. Мяркуючы па ўсім, рэжым яе ўтрымання вельмі жорсткі. Прынамсі, нават сына да яе не пускаюць. Гульнара Карымава — дачка прэзідэнта-нябожчыка, акрамя таго, што займалася шоу-бізнесам, раней лічылася адной з самых уплывовых фігур на палітычным алімпе краіны. Справы яе сапсаваліся гадоў пяць таму з-за некалькіх аднасачасовых фінансавых скандалаў міжнароднага характару. Яшчэ пры жыцці бацькі яе змясцілі пад хатні арышт. Тым не менш, нягледзячы на вельмі экспрэсіўны характар Гульнары, яна ўсё роўна застаецца цяжкаатлетам узбекскай палітыкі, паколькі ўвесь аўтарытэт посткарымаўскай эліты трымаецца на кульце Карымава. У выпадку нейкай буйной памылкі Мірзіёева нельга было выключыць, што яго праціўнікі могуць выкарыстаць Гульнару, каб прэтэндаваць на ўладу. Ці была такая пагроза прычынай шпіталізацыі дачкі Карымава, можна толькі здагадвацца. Цікава, што на ўзбекскіх інтэрнэт-форумах шмат хто вельмі здзівіўся, што Гульнара яшчэ ўвогуле жывая. Карымаў, на думку шмат каго, адразу прыбраў бы канкурэнта.

### Амбер Руд



Новая міністр унутраных спраў Вялікабрытаніі Амбер Руд пазнаёміла аўдыторыю з запланаванымі рэформамі, якія будуць тычацца рэжыму знаходжання іншаземцаў у краіне пасля выхаду Брытаніі з ЕС. Давядзецца ім няпроста. Па словах міністра, будуць абмежаваныя правы фірмаў, якія запрашаюць іншаземных працоўных, і перш за ўсё грамадзян ЕС. Гэта мера павінна ўзняць шансы брытанцаў на рынку працы. Ёсць ідэя стварэння фонду, з якога будуць выдзяляцца дадатковыя сродкі на заробкі ў муніцыпальных школах і шпіталях — менавіта сюды з-за нізкіх заробкаў уладкоўваюцца працаваць гастарбайтэры. Чакаецца рэформа для ўніверсітэтаў, якія за грошы вучаць замежных студэнтаў. Сярод апошніх хапае тых, хто пасля вучобы нелегальна застаецца ў краіне. Цяпер студэнт павінен давесці, што сапраўды цікавіцца навукай, а не візай. Пачынаючы з новага года ўладальнікам нерухомасці пагражаюць новы пакаранні за здачу кватэр у арэнду асобам, якія не маюць права на сталае знаходжанне. Банкі павінны будуць кантраляваць трансферы мігрантаў. Запускаецца практыка дэпартацыі замежнікаў, якіх прыцягвалі да адміністратыўных спраў (раней такая мера дзейнічала выключна адносна крымінальных злачынцаў). Выступ Амбер Руд ужо выклікаў занепакоенасць у Польшчы і Літве. На думку польскай прэсы, пад новыя законы стоадсоткава трапіць вялікая частка з 800-тысячнай грамады палякаў у Вялікабрытаніі.

# Як жа яны здолелі пракарміць дзесяць дзяцей?

Ігар ІВАНОЎ

**Столькі дзяцей, як жа яны маглі іх пракарміць? Гэтае пытанне аўтар, навуковы супрацоўнік Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту, часцяком чуе ад наведвальнікаў.**

Не хочацца псаваць людзям уяўленне пра сялянскі побыт XIX стагоддзя як пра нешта прывабнае сваёй дысцыплінаванай упарадкаванасцю і ледзьве не святой лагоднасцю, пра свет, дзе патрыярхальнасць і кансерватызм з'яўляюцца галоўнымі каштоўнасцямі. Часцей сумна ўсміхнешся на з'едлівы каментар мужчынскай аўдыторыі, ды мусіш перавесці тэму. Зрэдку, калі бачыш зацікаўленасць і сумнеў у вачах, пачынаеш паступова акунаць слухача ў бязлітасную рэальнасць тагачаснага вясковага жыцця.



## Дзяўчынка — адрэзаны кавалак

Мець шмат дзяцей вымушала эканоміка. З'яўленне дзяцей у сялянскай сям'і — гэта, перш за ўсё, павелічэнне колькасці працоўных рук у гаспадарцы. Нараджэнне дзяцей, асабліва хлопчыкаў (дзяўчынка лічылася адрэзаным кавалкам, паколькі прыносіла сям'і больш расходаў, чым прыбытку), успрымалася заўсёды з радасцю.

Але насамрэч гаварыць аб шматдзетнасці даволі цяжка, бо вялікія сем'і ствараліся за кошт сужыцця ў адной хаце некалькіх сыноў з жонкамі і дзецьмі. Нераздзеленыя сем'і сапраўды мелі агульную колькасць 8–10 дзяцей. Але, калі прасачыць дзетнасць шлюбных параў, то кожная з іх мела прыкладна трое-чацвёра дзяцей, радзей — 5–6, і яшчэ менш — 7 і больш дзяцей.

## Вымушаны крок

Нараджаць больш дзяцей у сялянскай сям'і вымушаў не толькі тагачасны эканамічны лад, але і становішча з ахвай здароўя. Дзіцячая смяротнасць у той час, па сённяшніх варунках, была проста жахлівай.

Два гады таму мне давялося вывучаць метрычныя кнігі аб памерлых прыходу Бараньскай Спаса-Прэабражэнскай царквы. Дзякуючы таму, што ў іх уносіліся ўзрост і прычына смерці, кнігі дазвалялі прасачыць, які быў працэнт дзіцячай смяротнасці на вёсцы ў той час. Памятаю, як пасля доўга шукаў у сецiве эпідэміялогію захворванняў (старыя назвы некаторых ніколі не чуў), каб зразумець, што за хваробы дзясяткамі выніпчалі малых дзяцей.

Напрыклад, у 1868 годзе з 40 памерлых у прыходзе больш за палову (23 чалавекі) былі дзеці ва ўзросце да 5 гадоў. У 1869 годзе з 92 памерлых — 37 ва ўзросце да 5 гадоў. Святар на старонках кнігі адзначае, што прычынай смяротнасці стала эпідэмія воспы і крупу — захворвання дыхальных шляхоў, з-за якога многа дзяцей паміралa, не дажыўшы да года.

У 1870 годзе з 70 памерлых 36 былі ва ўзросце да 5 гадоў. Прычынамі смяротнасці былі адзёр, коклюш, шкарлятына. Страшэнныя сведчанні за 1890 год — 83 дзіцяці памерлі ад эпідэміі крупу і скулы. Пра маштабы дзіцячай смяротнасці сведчыць метрычная кніга аб памерлых за 1892 год, якая абрывaецца на лютым, — аднак і на той момант утрымлівае звесткі аб 11 памерлых дзецях. За няпоўныя два месяцы!

Часам, без магчымасці дыягназаваць хваробу, якая стала прычынай смерці, пісалі проста: «ад нястраўнасці», «ад крывавага паносу». Гэта можа сведчыць аб частай адсутнасці простай гігіены. У прычынах смерці можна было сустрэць пазначэнні «ад кашлю», «ад прастуды» і гэтак далей.

Умовы сялянскага жыцця ў XIX стагоддзі былі дастаткова цяжкімі не толькі па сучасных мерках. Многія расійскія даследчыкі ў сваіх падарожжах па далучаных да Расійскай імперыі тэрыторыях адзначалі нізкі ўзровень дабрабыту беларусаў. Цяжкая знясільваючая праца, пастаяннае недаяданне, антысанітарыя з'яўляліся прычынай розных захворванняў — страўнікава-кішачных, туберкулёзу, дыфтэрыту. Асабліва схільныя да захворванняў былі немаўляты.

Ніхто ніколі не ведаў, ці выжыве дзіцяці праз тры-пяць гадоў. І гэта прымушала нараджаць больш.

## Кантрацэпцыя? Не, не ведалі

Яшчэ адзін чыннік вялікасці беларускіх сялянскіх сем'яў — адсутнасць планавання сям'і. Няма падстаў гаварыць аб распаўсюджанні штучнага рэгулявання дзетнасці ў XIX — пачатку XX стагоддзяў. Сярод беларускіх жанчын радыкальныя спосабы папярэджання цяжарнасці вядомыя не былі. Больш распаўсюджаны былі аборты. Для таго, каб перарваць цяжарнасць, жанчыны клалі на жывот гарачыя камяні або гаршчок, саскоквалі з вышыні, падымалі цяжкія прадметы, пілі настоі шалупіння з цыбулі, кары крушыны і г.д. Часцей на гэта ішлі самотныя жанчыны, якія баяліся гневу бацькоў або асуджэння грамадства. Матэрыялы судоў сведчаць пра тое, што штучнае перарыванне цяжарнасці заўсёды каралася, калі станавілася вядомым абшчыне.

Што тычыцца замужніх жанчын, то яны нараджалі столькі дзяцей, «колькі Бог пашле». Аднак недастатковы дагляд, адсутнасць сістэмнай медычнай дапамогі, недастатковае харчаванне былі прычынамі высокай дзіцячай смяротнасці. У зімовы час ворагам кволага дзіцячага здароўя быў холад, як следства яго — моцна натопленая печ і адсутнасць свежага паветра. Асабліва вострай была праблема ў «курных» хатах, дзе ў печы адсутнічаў дымаход.

Аднак, нягледзячы на сум абмаляванай сітуацыі, пэўныя захады для прафілактыкі захворвання дзяцей на вёсцы ўсё ж існавалі. Прыкладна да шасці месяцаў іх купалі кожны дзень, затым — два-тры разы ў тыдзень, пасля года — адзін-два разы. Да паўгода ўжывалася тугое спавіванне дзіцяці. Лічылася, што яно садзейнічае выпраўленню розных фізічных дэфектаў (крывабокасць). На сёмым-восьмым месяцы дзіця спавівалі больш свабодна, абвязваючы толькі ножкі. Прыкладна з чатырох месяцаў пачыналі садзіць, з пяці-шасці — ставілі.

Немагчыма пераацаніць значэнне харчавання, ад якога залежаў фізічны стан дзяцей, імунітэт. Самай каштоўнай ежай было мацярынскае малако, якасць якога залежала ад фізічнага стану маці, яе ўласнага харчавання. У першыя суткі-двое, калі малако ў маці яшчэ не з'явілася, дзіцяці давалі жаваны хлеб з цукрам, завязаны ў чыстую палатняную анучку, у рэдкіх выпадках давалі да грудзей жанчыны, у якой таксама было дзіця. Карміліся дзеці мацярынскім малаком доўга — да двух гадоў, а то і больш. На чацвёртым-пятым месяцы давалі прыкорм, звычайна — каровіна малако, разведзенае кіпнем. Прыкладна з паўгода пачыналі даваць вадкую грэчневую кашу. Пасля года дзяцей патроху пачыналі карміць з агульнага стала.

## Медыцыны амаль няма

У выпадку эпідэміялагічных захворванняў не было сродкаў, якімі можна было б лячыць дзіця з гарантыяй пераносу ім лекаў, якія прызначаліся дарослым. Павятовыя і гарадскія шпіталі не мелі поўнага штата лекараў, фельчараў, месцазнаходжанне шпіталя было, часцяком, у недасяжнай далечыні ад многіх вёсак і дабрацца да іх, асабліва зімой, селяніну з хворым дзіцем не было магчымасці. З 1869 года існавала вяскова-лекарская частка, якая ўяўляла сабой арганізаваныя пункты медыцынскай дапамогі ў валасці з фельчарам, павітухай і аптэкай. Задачай фельчара быў прыём і агляд хворых, прыняцце мер у папярэджанні эпідэміялагічных захворванняў.

У 1847 годзе міністр унутраных спраў Расійскай імперыі граф Пяроўскі, грунтуючыся на статыстычных дадзеных аб вялікай смяротнасці нованароджаных і парадзіх у выніку недастатковага і нядбайнага за імі дагляду, прапанаваў прызначаць у валасцях вывучаных павітух са складу простага насельніцтва. Спачатку ў Магілёве пры родавадапаможнай установе было арганізавана аддзяленне адукацыі павітух, а ў 1865 годзе паўстала Цэнтральная спавівальная школа, якая штогод выпускала да 20 вывучаных павітух. Працэс навучання складаў 3 або 4 гады (у залежнасці ад ўзроўню ведаў жанчын, якія паступалі ў школу) і ўключаў падрыхтоўчы клас (1 або 2 гады) і два спецыялізаваных класа. Праграма падрыхтоўчага класа ўключала заняткі па рускай мове, матэматыцы, закону Божаму, лацінскай мове, фізіцы, анатоміі. У спецыялізаваных класах будучыя павітухі навучаліся акушэрству, малой хірургіі, фармакалогіі, лячэнню венерычных захворванняў і дзіцячых хвароб. Пасля выпуску са школы ў іх абавязкі ўваходзіла дапамога сялянскім жанчынам падчас родаў і пры жаночых захворваннях. Акрамя таго, усе павітухі загадвалі гаспадарчай часткай сельскіх бальніц, дапамагалі фельчарам даглядаць хворых, удзельнічалі ў вакцынацыі насельніцтва падчас эпідэмій.

Тым не менш, варта адзначыць што большасць павітух былі ўсё ж без адукацыі, «спрактыкаванымі» жанчынамі з вёскі, якія часта жылі ў суседнім двары і ў выпадку цяжкасці родаў, пры адсутнасці магчымасці ў кароткі час даставіць да парадзіхі вывучанага чалавека, самі прымалі на сябе абавязкі па прыняцці дзіцяці і дагляду за маці.

Адна спавівальная школа рыхтавала павітух ва ўсе беларускія губерні, і, зразумела, не магла забяспечыць вёску неабходнай колькасцю спецыялістаў. Востра стаяла праблема інструментаў, фармакалагічных сродкаў. Будынкі бальніц былі дрэнна абсталяваныя: бракавала інструментаў, ложкаў, а кепска наладжаныя шляхі паміж вёскамі, цалкам залежныя ад умоў надвор'я, рабілі дастаўку лекара да сялянскай хаты часцяком немагчымай.



У такіх варунках, каб выжыць, захаваць свой род, заставалася толькі адно — нараджаць.

# Кіраўнік філаматаў Юзаф Яжоўскі, або Еж

Васіль ГЕРАСІМЧЫК

**Шэсць студэнтаў Віленскага ўніверсітэта 1 кастрычніка 1817 года заснавалі Таварыства філаматаў. За шэсць гадоў існавання колькасць згуртавання не перавысіла 19 чалавек, але яго праца на дзесяцігоддзі прадвызначыла ідэйнае развіццё зямель былой Рэчы Паспалітай.**

калі імёны Адама Міцкевіча і Тамаша Зана добра вядомыя, дык іншым заснавальнікам пашчасціла менш. Сярод іх Ануфрый Петрашкевіч, Эразм Палюшынскі, Бруна Сухецкі і «адзіны неліцвін у сям'і філаматаў» — украінец Юзэф Яжоўскі па мянушцы Еж, які стаў на чале таварыства і надаў яму педагагічны накірунак.

### «Маўклівы» старэйшы брат

Ён нарадзіўся 7 сакавіка 1793 года ў ваколіцах Умані Кіеўскай губерні. Пасля заканчэння базыльянскай школы ў 1815 годзе паступіў у Віленскі ўніверсітэт, дзе ў 1816 годзе здаў экзамен на кандыдата філасофіі. Яжоўскі быў рацыяналістам і прыхільнікам вучэння Імануіла Канта, марыў закласці пачатак філасофскаму падмурку былой Рэчы Паспалітай.

Менавіта да яго пасля пачатку чарговага навучальнага года 15 верасня 1817-га па дапамогу звярнуліся Адам Міцкевіч і Тамаш Зан, і перадалі для выпраўлення распрацаваны статут таемнага студэнцкага згуртавання. Еж перарабіў першапачатковы варыянт, у якім таварыства павінна было зрабіцца адным са шматлікіх на той час жартаўлівых студэнцкіх аб'яднанняў, накшталт шубраўцаў. Ён абраў за прыклад таварыства, якое дзейнічала ў Віленскім універсітэце ў 1806–1808 гадах на чале з капеланам гарадской гімназіі Францішкам Гадлеўскім і насіла назву філаматаў.

Менавіта гэтую назву вырашылі сабе абраць і сябры новаўтворанага згуртавання. Старшынёй яго быў абраны Ежы, які, нягледзячы на мянушку «маўклівы», лічыўся адным з самых адораных і арганізаваных студэнтаў Віленскага ўніверсітэта.

У паслянапалеонаўскі час у Еўропе, якая развівалася ў рэчышчы рашэнняў Венскага кангрэса, шырока разгарнуўся рух па стварэнні таемных студэнцкіх таварыстваў. Але, у адрозненне ад пераважнай іх большасці, філаматы ставілі на мэце ўласнае самаўдасканаленне і пазбяганне палітыкі і рэлігіі. Сімвалам аб'яднання стала сава, якая сядзіць на лютні.

Ужо 4 лістапада падчас першага прыёму новых сяброў, Яжоўскі прамовіў, што саюз, які яны ствараюць, «не на імгненне, не для хвілінай забавы», а на ўсё жыццё, і што яго «святыя абавязкі не кожнаму даступныя». Да ліку шасцярых заснавальнікаў, па рэкамендацыі Міцкевіча, далучыліся Зыгмунт Навіцкі і сын рэктара ўніверсітэта — Францішак Малеўскі, а 25 лістапада, па пратэкцыі Петрашкевіча, — Юзаф Кавалеўскі.

Па прапанове Яжоўскага дзясятым філаматам стаў Ян Чачот. 2 чэрвеня 1818 года Петрашкевіч прапанаваў яшчэ Тэадора Лазінскага, а 6 чэрвеня да іх далучыўся Дыянісій Хлявінскі. У 1819 годзе філаматамі сталі Дамінік Ходзька, Казімір Пясецкі, Ігнат Дамейка, Ян Сабалеўскі і Міхал Рукевіч. Апошнімі далучыліся Вінцэнт Будрэвіч (у 1820-м) і Станіслаў Казакевіч (у 1822 годзе).

### «Не словамі, а справамі»

Яжоўскі, старэйшы за астатніх філаматаў, быў для іх сапраўдным прыкладам. Яго дэвіз — «Non dictis sed factis» («Не словамі, а справамі»). Ён быў сапраўдным псіхолагам і лекарам душаў, які заўсёды быў гатовы прыйсці на дапамогу. Напрыклад, падтрымліваў паэта Адама Міцкевіча падчас цяжкасцяў таго ў рамане з замужняй ковенскай шляхцянкай Каралінай Кавальскай, і не дазволіў таму нарабіць недарэчных памылак.

Ігнат Дамейка пазней успамінаў: «Халодны і сур'ёзны, бледны, найчасцей задумлівы Юзаф Яжоўскі мала размаўляў і рэдка калі апускаўся да жартаў, спрэчак і дыскусій, а калі браў слова ў справе, якая датычыла лёсу краю, дык заўсёды казаў спакойна, бездакорна, з найсуроўшай логікай і пераканаўча».

Еж не даваў братам палёгку, прымушаў іх да творчых росшукаў. Ён быў душою парадку і згоды, а пры невычэрпнай сіле мыслення адзначаўся выключнай дабрынёй. Яжоўскі так шмат раздаў сябе сваім братам, што, на жаль, сёння мала хто памятае пра яго.





Тамаш Зан



Ян Чачот

### Філамацкія вечары

Падчас штотыднёвых сустрэч філаматы займаліся не толькі навуковымі спрэчкамі. Яны, перш за ўсё, весела бавілі час: спявалі ўласныя песні, прычым не толькі на польскай, але і на беларускай мове. Адной з самых папулярных была «Што мы вашэсці скажам…», напісаная Янам Чачотам.

Адбываліся абмеркаванні створаных паэтычных твораў і праведзеных навуковых даследаванняў. Пасля гэтага заслухоўваліся загадзя падрыхтаваныя на іх рэцэнзіі, ладзілася абмеркаванне, якое пераходзіла ў дыскусію. Затым адбывалася галасаванне, па выніках якога выносіўся прысуд у адносінах да навуковай працы або паэтычнага твора. Напрыклад, Яжоўскі ў розны час выступаў з такімі тэмамі, як «Пра дзве разнавіднасці ўлады», «Праванская паэзія», «Пра Сафокла», «Пра класіцызм».

7 сакавіка 1819 года шырока адзначаўся дзень нараджэння Яжоўскага. Ян Чачот даслаў у Вільню з гэтай нагоды серыю беларускамоўных вершаў, якія атрымалі агульную назву «Яжовыя іменіны». Сам Чачот, які называў Ежы «вашэсць украінец», у гэты час вымушаны быў выконваць абавязкі пісарчука ў Мінску, таму з зайздрасцю адзначаў: у той час, як сябры «апаражняюць бутэлькі», ён «посціць, як святы» і «маршчыніць чало» на працы. Дасланыя вершы на ўрачыстасці зачытаў Тамаш Зан, а сцэнку, апісаную Чачотам, разыгралі ўсе браты-філаматы, віншуючы імянінніка:

*«Няхай цябе панны любяць*
*І часта просяць зазулькі,*
*Калі з табой ся зашлюбяць*
*І ад'едуць ад матулькі».*

**Еж не даваў братам палёгку, прымушаў іх да творчых росшукаў. Ён быў душою парадку і згоды, а пры невычэрпнай сіле мыслення адзначаўся выключнай дабрынёй. Ён быў сапраўдным псіхолагам і лекарам душаў**

### Дапамога братам, хвароба і вандроўкі

У 1820 годзе Яжоўскі дапамагаў Тамашу Зану ў яго працы па арганізацыі Таварыства Прамяністых, напісаўшы яго статут — «Пятнаццаць правіл паводзін для моладзі, якая належыць Таварыству сяброў карыснай забавы». Затым Еж цяжка захварэў, што на пэўны час перашкодзіла яго вандроўцы на радзіму Яна Чачота.

Але па выздараўленні восенню ён выправіўся ў падарожжа па Навагрудчыне, аб чым 26 кастрычніка паведаміў Ян Чачот філамату Ануфрыю Петрашкевічу:

«Дарагі наш Еж, выздаравеўшы так, што мог смела ехаць, ужо другі тыдзень, як выехаў у Шчорсы і пасля трохдзённай трасяніны (бо і дарога, і фурманка кепская) спыніўся ў яснавяльможнага. Прыняты ім прыхільна і з абяцаннем, што яго адпоіць шчорсаўскім півам, бавіцца там добра, штораз пазбаўляючыся ніякаватасці, якую заўсёды адчуваеш у чужым, тым болей яснавяльможным доме, і спіць добра, з чаго я зрабіў вывад, што ўжо здаровы».

У 1820–1821 годзе Яжоўскі выношваў ідэю энцыклапедыі класічных аўтараў, на шляху да якой падрыхтаваў у Вільні каментаванае выданне Гарацыя (1821–1823, дапоўненае ў 1824). А ў 1822 годзе разам з Янам Чачотам займаўся выданнем твораў Адама Міцкевіча.

У час вандровак Еж са здзіўленнем заўважаў згасанне адукацыі на землях колішняй Рэчы Паспалітай, нават у асяродку вядомых манахаў-бенедыктынцаў. Яго непакой выклікала тое, на якім узроўні знаходзілася выкладанне лацінскай, грэчаскай і яўрэйскай моваў, і што праца каталіцкіх святароў далёкая ад духоўнага рэчышча. Чачот апісваў заклапочанасць сябра ў сакавіку 1823 года: «Еж скардзіцца, што ў часе выбараў абата дазнаўся многа чаго непрыгляднага. «Бо на выбарах, — кажа ён, — было многа выпіўкі, музыкі і іншых забаў. Папы цяпер п'юць і весяляцца, а абедаюць позна». «Я, аднак, кажа далей, заўсёды самотны і сур'ёзны. Найпрыемнейшыя гутаркі для мяне — гэта з маім малым камердынерам, які мне апісвае характары п'яных ксяндзоў і іншыя манастырскія асаблівасці».

### Жыццё пасля арышту

У хуткім часе пасля гэтай вандроўкі па Літве Яжоўскі быў арыштаваны па справе філаматаў, і ў ліку дзесяці найбольш выбітных дзеячаў таварыства перададзены пад апеку Міністэрства духоўных спраў і народнай асветы. Яго павінны былі накіраваць углыб Расіі для працы на карысць Імперыі ў адпаведнасці з яго адукацыяй. Таму разам з Малеўскім і Міцкевічам Яжоўскі выправіўся спачатку ў Пецярбург, адкуль накіроўваецца на выкладчыцкую працу ў Рышэльеўскі ліцэй Адэсы.

Але ўжо вясной 1825 года ён быў пераведзены ў Маскву, дзе зноў пэўны час жыў разам з Міцкевічам і Малеўскім, выкладаў у гімназіі і грэчаскую мову ў Маскоўскім універсітэце. Аднак пасля выключэння апошняй з праграмы ўніверсітэта ў 1827 годзе, спрабаваў знайсці працу ў іншых універсітэтах. У гэты ж час (1828) выйшла яго выданне «Адысеі» Гамера на лацінскай мове.

Затым амаль дзесяць гадоў ён у пошуках кавалка хлеба перабіваўся з працы на працу. А пасля амністыі ў 1841 годзе вярнуўся ў родную Кіеўскую губерню, дзе да самай смерці 16 жніўня 1855 года працаваў хатнім настаўнікам. Так скончылася жыццё Юзафа Яжоўскага — таленавітага кіраўніка віленскай моладзі, якая прайшла шлях духоўнага развіцця ад філаматаў да філарэтаў.

# Адпачынак на Радзіме

## Кансультацыя непрафесіянала. Частка 2

Саша ВАРЛАМАЎ



**У Браславе я магу зірнуць у вакно, і ў любую хвіліну ўбачыць водную роўнядзь, што цягнецца да далягляду.**

На паверхні возера пастаянна нешта адбываецца — як у фантастычным бясконцым фільме, у ёй адлюстроўваюцца і зорнае начное неба ў зацішнае надвор'е, і дарожка, па якой месяц-гаспадар ажыццяўляе рытуальны абход сваіх зямных уладанняў, і сталёвага колеру ранкі, і заходы амаль што паўночнага сонца ў дні непагадзі, і асляпляльна-люстраныя адбіткі сонечнага ззяння ў ясныя дні…

Узнёслы літаратурны стыль тут больш чым дарэчы.

Кажуць, што не так даўно — крыху больш за сто гадоў таму — усе азёры, што сёння ўваходзяць у склад гэтага запаведніка, былі адным суцэльным водным разлівам, які злучаў дзве наймагутныя ракі: з аднаго боку Нёман, а з другога — Заходнюю Дзвіну. Потым недзе недалёка пабудавалі электрастанцыю — яна цяпер ужо не працуе, але яе плаціна ўсё яшчэ ёсць. З-за гэтага азёры моцна змялелі, вада адышла ад сваіх тагачасных берагоў больш чым на 250 метраў, і цяпер на сярэдзіну самага вялікага з іх у раёне Браслава можна дайсці па дне, — або амаль што так.

Цяпер некалькі азёраў усё яшчэ злучаныя паміж сабой адной рачулкай-пратокай, якая цудам засталася ад той былой велічы. Нават на лодцы можна самастойна здзейсніць экскурсію і наведаць раскіданыя непадалёк адзін ад аднаго мясцовыя пасёлкі, якія захавалі пабудовы мінулага і пазамінулага стагоддзяў. Ёсць старадаўнія касцёлы і нават забытыя цэркавачкі, на якія варта зірнуць з-за іх архітэктуры і мясцовага строю.

А яшчэ ў гэтых мясцінах амаль што няма шматпавярховых каменных забудоў для гасцініц, турбаз і дамоў адпачынку. Яны тут і не патрэбныя. І Замкавая гара — на самай справе сёння гэта не самы высокі ў ваколіцах узгорак — бачная з усіх бакоў горада.

А з Замкавай гары можна ўбачыць далёка вакол горада і за ім, але практычна паўсюль, у які бок ні паглядзіш, бачныя адны толькі азёры, апраўленыя ляснымі берагамі.

У гэтых краях надзіва прыгожыя лясы! І разнатраўе! І разнаквецце! І пастаянны пах сунічных палянаў ды лугоў. Менавіта сунічных лугоў у такой колькасці, як тут, я больш не бачыў нідзе і ніколі. Здаецца, што суніцы растуць тут паўсюль. І такі самы пах вісіць у паветры ў гарачыя поўдні.

Сюды не прыязджаюць выхваляцца ўборамі. Тут жанчынам не прынята з'яўляцца з макіяжам і прычоскай. Тут ходзяць у шлёпках. Тут носяць шорты і майкі. А па вечарах з садоў даносіцца пах варыва, на адкрытым агні, на мангалах і барбекюшніцах. І не таму, што няма газавых або электрычных плітаў, а таму, што так смачней і духмяней.

Тут у многіх мясцовых жыхароў ёсць свае лазенкі — чысценькія і акуратненькія, адкуль пад вечар нават у самыя гарачыя дні чуваць, як працуюць бярозавыя і дубовыя венікі, і адкуль можна, якія ёсць — у чым маці нарадзіла, — выскачыць і праз дзясятак метраў кінуць у халаднаватую азёрную ваду свае целы, разгарачаныя натуральнай вясковай парай.

Азёры тут паўсюль. А вакол азёр — лясы. І крыніцы — халодныя, аж зубы ломіць. Таму можна жыць не толькі ў хаце, але і ў намёце. Не дзікуном, не. А ў абдымках у прыроды. Бо, калі табе трэба, і дровы падвязуць, і лаўка прадуктовая пад'едзе, не кажучы ўжо пра тое, што на роварах не так ужо і далёка да бліжэйшай вёсачкі або хутара.

Вудзяць тут практычна ўсе запар, і нават тыя, каму гэта ў прынцыпе не трэба, а патрэбная проста прычына, каб пасядзець з вудай і памаўчаць… І менавіта ў маўчанні і адбываецца яднанне душы са сваёй пра-пра-прасновай.

Не варта, па-мойму, называць гэтыя месцы курортам. Калісьці тых, хто прыязджаў сюды на адпачынак, называлі «дачнікамі». Прайшлі тыя часы, насталі іншыя. Але, як і раней, людзі едуць сюды з адной толькі мэтай — забыцца на горад, сысці ў цішыню, апынуцца сярод прыроды, перад якой бессэнсоўна прыкідвацца і строіць з сябе яе гаспадара.

Прыроду немагчыма падпарадкаваць. Яна, калі гэта супярэчыць яе сутнасці, проста перастае быць сабой, быць прыродай. А замяніць яе нечым штучным не атрымалася яшчэ нікому — колькі б ні спрабавалі.

Прырода — яна ці ёсць, ці яе няма. Таму не хочацца, каб якому-небудзь прадпрымальніку ад турызму раптам прыйшло ў галаву, што на гэтым месцы можна зарабіць, змяніўшы яго сутнасць на супрацьлеглую.

Можна ссекчы на вуліцах дрэвы, як гэта ўжо здаралася ў гэтых месцах, на падставе таго, што трэба прыбіраць восенню апалае лісце. Можна знесці старэнькія, але ўсё яшчэ жывыя домікі, якія чамусьці ніяк не хочуць быць падобнымі на сваіх тыпавых безаблічных сучасных родзічаў. Напэўна, усё гэта можна, але ці трэба гэта рабіць!?

У кожным старэнькім браслаўскім доміку ўсё яшчэ адчуваецца нябачная прысутнасць тых, хто іх калісьці пабудаваў і жыў у іх. Гэта не здані. Гэта дух горада, душа гэтай зямлі, яе сутнасць, сэнс і моц.

Тым, каго такі погляд на адпачынак не задавальняе, можна прапанаваць з'ездзіць — на выбар — у Балгарыю або Турцыю, у Егіпет або Тайланд, да прыкладу. Ці, у крайнім выпадку, хоць бы і на Нарач, ці на тое, што ад яе засталося… Хочацца ўрбаністычнага адпачынку — выбар вялікі.

А Браслаў — адзін такі на зямлі. І гэта так не толькі ў той краіне, дзе мне давялося нарадзіцца і жыць. Калі вандруеш па свеце, то часцей за ўсё з замілаваннем глядзіш на рэшткі жывой прыроды толькі на рэкламных буклетах. А калі сутыкаешся з імі твар да твару, то разумееш, наколькі ў малюнках усё перабольшана. Гэта праўда, гэта не выдумка, і не настальгія па жыцці.

І яшчэ — смецце! А дзе яго няма?! Яно ўсюдыіснае. Яно валодае нашым светам, зямлёй, на якой нам усё яшчэ трэба нейяк жыць далей. Смецце запоўніла ўсю дасяжную чалавеку прастору. Яно зараз ёсць нават у космасе. Смецце — прыкмета цывілізацыі.

Можна доўга наракаць на смецце і тых, хто яго вырабляе, і рабіць гэта вельмі шчыра і гучна. Але толькі гэта, па-мойму, нічога не зменіць. У Браславе мне распавядалі, што яго жыхары, калі заканчваецца летні сезон, (а ён нядоўгі — усяго і ёсць, што 2–3 месяцы на год), дык вось, самі браслаўчане без указанняў і загадаў знізу або зверху, выпраўляюцца на прыборку таго, што пакінулі за сабой адпачывальнікі, якія жывуць толькі адным днём.

Жыць адным днём стала зручна, ёсць нават цэлыя тэорыі на гэтую тэму: маўляў, жыць трэба без клопату пра дзень заўтрашні, а заўтрашні дзень сам паклапоціцца пра сябе… Гэта ўсё так — у тэорыі. Але ў гэтай тэорыі ёсць яшчэ і працяг, у якім гаворыцца, што жыць усё ж варта так, каб пасля цябе, у лепшым выпадку, не трэба было перабудоўваць свет нанова.

І вось яшчэ што я пра гэта думаю, гэта ўжо маё асабістае: «Кожнаму чалавеку хочацца, каб на зямлі было хоць бы адно месца, у якім усё і заўсёды застаецца менавіта так, як ён пакінуў».

Я маю на ўвазе менавіта Браслаў.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 972

Падпісана да друку 07.10.2016. 8.00.
Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.